# Шляхі

# 11

# КАЛЕКТЫВІЗАЦЫ



1931

# Чэрвень--ударны месяц. Кожнаму калгасьніку--працоўную кніжку

На падставе пастановы НКЗ і Калгасцэнтру СССР, Наркамзем і Калгасцэнтр БССР абвясьцілі чэрвень месяц ударным па арганізацыі правільнага уліку працы ў калгасах. На працягу гэтага месяцу да кожнага калгасьніка павінна быць давезена працоўная кніжка і забясьпечан рэгулярны запіс яго працадзён. Да 1-га ліпеня павінны быць праверaны ўсе працоўныя кніжкі і выпраўлены дапушчаныя ў іх памылкі.

Да канца чэрвеня павінны быць удасканалены нормы выпрацоўкі на ўсе работы праполачнай, уборачнай і асеньняпасеўнай кампаніі.

НКЗ і Калгасцэнтр БССР абавязалі ўсе зямельныя і калгасныя органы безадкладна вылучыць ва ўсіх калгасных брыгадах, маючых у сваім складзе звыш 30 калгасьнікаў—спэцыяльных вучотнікаў, якія павінны дапамагаць брыгадзіру ў падліку колькасьці выкананай кожным калгасьнікам работы, утварыць залічэньне выпрацаваных працадзён і нарадаў у працоўных кніжках.

Пры Белкалгасцэнтры арганізавана тэрмінам на 1 месяц бюро па правядзеньню ўліку ў калгасах. Такія-ж бюро арганізоўваюцца і пры Райкалгассаюзах.

## ЗЬМЕСТ



# „Паход" калгаснай моладзі на прадпрыемствы

У мэтах вывучэньня калгаснай моладзьдзю БССР вопыту соцспаборніцтва, ударніцтва, зьдзельшчыны на прадпрыемствах і перанясеньня гэтага вопыту ў калгасы,—Калгасцэнтр БССР пастанавіў арганізаваць разам з ЦК ЛКСМБ „паход" калгаснай моладзі на прадпрыемствы агульнай колькасьцю ў 800 чал.

„Паход" будзе праведзен паміж веснавой пасеўнай і ўборачнай кампаніямі.

У „паход" павінна вызначацца тая частка моладзі, якая паказала ў час веснавой сяўбы прыклады ўдарнай працы і пасылаемыя кандыдатуры абавязкова павінны абгаварвацца на агульных сходах калгаснай моладзі.

*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# Шляхі калектывізацыі

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

| Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 2 паверх, тэл. 14—60 | № 11—ЧЭРВЕНЬ—1931 | ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ |
| --- | --- | --- |



# Выключную ўвагу ўборачнай кампаніі

**На аснове пасьпяховай падрыхтоўкі і правядзеньня ўборкі ўраджаю арганізуем новы прыліў у калгасы беднякоў і серадкякоў.**

## ПЛЯНЫ ЎБОРКІ ДАВЕСЬЦІ ДА КОЖНАГА КАЛГАСУ І КАЛГАСЬНІКА

Да часу разгортваньня масавай веснавой сяўбы 1931 г. больш як 30 проц. батракоў, беднакоў і серадкякоў аб'ядналіся ў калгасы. Кожны дзень прыносіць усё новыя і новыя зьвесткі аб пашырэньні калгаснага руху. Такія раёны як Лепельскі, Хоцімскі, Клімавіцкі, Касьцюковіцкі, Менскі і Мсьціслаўскі набліжаюцца ўжо да раёнаў суцэльнай калектывізацыі. Пасьпяховае завяршэньне веснавой сяўбы, рашучы адпор опортуністам, бязьлітасная барацьба з кулаком, укараненьне зьдзельшчыны, правільны ўлік працы і разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў калгасах—забясьпечвае далейшы, яшчэ больш моцны ўздым калгаснага прыліву.

Задачай усіх партыйных, савецкіх, калгасных і грамадзкіх арганізацый зьяўляецца, на падставе дасягнутых посьпехаў у калгасным будаўніцтве, усямерна замацоўваць існуючыя калгасы і арганізоўваць далейшы калгасны прыліў, няўхільна ідучы па шляху суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на гэтай базе кулацтва як клясы. Асабліва вялікае значэньне ў справе далейшага разгортваньня калгаснага будаўніцтва мае надыходзячая праполачная і ўборачная кампаніі. Далейшы ўздым калгаснага руху будзе залежаць ад таго, наколькі пасьпяхова калгасы справяцца з уборкай ураджаю.

Для таго, каб не дапусьціць мінула-

годніх памылак, калгассаюзы і калгасы павінны зараз-жа разгарнуць падрыхтоўку да ўборкі. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што ўборка гэтага году па свайму аб'ёму і зьместу будзе больш складанай, чым мінулагодняя. Папярэднія падлікі паказваюць, што плошча азімых і яравых пасеваў, якія будуць убірацца калектыўна, у гэтым годзе складзе ня менш 1200 тысяч *га*. Калі да гэтай лічбы дадаць, што плошча працаёмкіх тэхнічных і прапашных культур павялічваецца ў калгасах у гэтым годзе ў 5—6 разоў і нават больш чым у мінулым годзе, і тое, што прыкладна 600 тысяч *га* сенажацяй будзе ўбірацца калгасамі, то стане зусім зразумела якія вялікія і складаныя задачы ў час уборкі стаяць перад калгасамі БССР.

Асноўная ўвага ў падрыхтоўцы да ўборкі і яе правядзеньня павінна быць зьвернута на ўнядрэньне зьдзельшчыны і правільны ўлік працы. На вытворчых нарадах і агульных сходах калгасьнікаў трэба пераглядзець і ўдасканаліць нормы выпрацоўкі так, каб яны спрыялі далейшаму ўздыму вытворчасьці працы. Нормы выпрацоўкі і зьдзельшчыны абавязкова распаўсюдзіць на ўсе віды работ па ўборцы ўраджаю.

Для пасьпяховага правядзеньня ўборкі ня меншую ролю мае правільная расстаноўкі рабочай сілы. Трэба памятаць, што малейшая няўвазка, няправільная расстаноўка сіл, няпоўнае скарыстаньне працы калгасьнікаў у час уборкі можа адмоўна адбіцца і нават сарваць уборачную кампанію. Таму неабходна зьвярнуць увагу і на правільную арганізацыю брыгад, расстаноўку іх у час уборкі. Абязьлічка жывога і мёртвага інвэнтара павінна быць канчаткова ліквідавана.

У мэтах заахвочваньня ўдарных брыгад і паасобных калгасьнікаў-ударнікаў усе Калгассаюзы, МТС і праўленьні калгасаў павінны вылучаць спэцыяльныя прэміяльныя фонды. Разам з гэтым за датэрміновае і добраякаснае выкананьне заданьняў трэба прэміраваць ударныя брыгады і ўдарнікаў павышэньнем ацэнкі ў працаднёх на 10—25 проц. І, наадварот, за несваячасовае і дрэннае выкананьне заданьняў—зьніжаць ацэнку ў працаднёх на 10—25 проц. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на якасьць работы. Барацьба за якасьць работы зьяўляецца аднэй з галоўнейшых задач уборачнай кампаніі.

Першым зьвяном уборачнай кампаніі зьяўляецца догляд за пасевамі. Кожны калгас як правіла павінен правесьці: 1) трохразавае поліва гародаў, 2) двухразавае поліва караньплодаў і насеньнікаў лугавых траў, 3) трохразавую прапашку караньплодаў і двухразавую асыпку бульбы, 4) двухразавае прарэджваньне караньплодаў, 5) ня менш чым аднаразовае поліва ільну. Усе гэтыя работы трэба правесьці сваячасова і ў максымальна кароткі тэрмін, як гэтага патрабуе агратэхніка.

Надзвычайна вялікую ўвагу ў час уборкі трэба аддаць стварэньню кармовай базы. У гэтых адносінах калгассаюзы і калгасы павінны ўлічыць урокі мінулага году. Неабходна сваечасова разгарнуць сенаўборку, закончыўшы яе ня больш як на працягу 10—15 дзён і гэтым самым забясьпечыць два ўкосы. У справе стварэньня кармовай базы сіласаваньне кармоў займае вялікае месца. Практыка мінулага году паказала, што тыя калгасы, якія залажылі сілос у дастатковай колькасьці—не адчувалі вялікіх цяжкасьцяй з кармамі і добра вытрымалі жывёлу да самага выхаду ў поле. Плян па сіласаваньні трэба выканаць не пазьней як да 15 кастрычніка. Аднак сьмяцьцёвыя травы (пустазельле, чарот, асака і інш.) павінны быць засіласаваны ў чэрвені месяцы. Таму да справы сіласаваньня трэба прыступіць зараз-жа. Асноўная маса сілосу павінна быць закладзена ў ямах і траншэях, якія будуюцца з мясцовых матар'ялаў і каштуюць танна. Адначасова неабходна разгарнуць работу па загатоўцы корму з вецьцяў, які ў значнай ступені дапаможа вырашыць кармовае пытаньне.

Да ўборкі ільну і канапель, карняплодаў і бульбы калгасы павінны рыхтавацца асабліва ўважліва, бо гэтыя культуры вельмі працаёмкія. Правільная расстаноўка сіл, максымальнае выкарыстаньне маючыхся машын і наяўнай рабочай сілы, перавод усіх працэсаў уборкі на зьдзельшчыну — зьяўляецца

вузлавым пытаньнем уборкі тэхнічных і прапалачных працаёмкіх культур. Для ўборкі гэтых культур трэба стварыць асобныя брыгады, максымальна выкарыстоўваючы працу жанчын і падлеткаў.

Посьпех уборачнай кампаніі ў значнай ступені будзе залежаць ад сваечасовай падрыхтоўкі кадраў масавай кваліфікацыі, як-та: брыгадзіраў, майстроў па сіласаваньні, арганізатараў працы, па рабоце на складаных сельска-гаспадарчых машынах і г. д. Да пачатку ўборкі праз каротка-тэрміновыя 10-ці дзённыя курсы павінны быць прапушчаны каля 40 тысяч калгасьнікаў. Гэтае мерапрыемства неабходна правесьці не пазьней як да 1-га ліпеня. Рашуча змагацца за цьвёрдую працоўную дысцыпліну, за правільнае разьмеркаваньне ўраджаю па колькасьці і якасьці працы кожнага калгасьніка. Падрыхтоўку і правядзеньне ўборкі трэба праводзіць на аснове шырокага разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва, скарыстоўваючы абмен вопытам паміж калгасамі. Лепшых калгасьнікаў-ударнікаў і 25-ці-тысячнікаў неабходна скарыстаць у якасьці пазаштатных інструктароў калгассаюзу.

Старыя калгасы павінны ўзяць шэфства над новымі, дапамагаць ім у арганізацыі працы, увядзеньні зьдзельшчыны, і правільнага разьмеркаваньня ўраджаю. Перакідка 1500 калгасьнікаў з старых калгасаў у новыя на час уборкі і прыезд 300 калгасьнікаў з брацкай Украінскай савецкай рэспублікі ў нашы калгасы, мае вельмі вялікае значэньне ў справе пасьпяховага правядзеньня ўборкі. Неабходна ў максымальнай ступені скарыстаць вопыт гэтых калгасьнікаў, ствараючы ім спрыяючыя ўмовы для работы. Работа з беднатой павінна быць у цэнтры ўвагі ўсіх калгассаюзаў і калгасаў. Трэба рашуча пакончыць з праваапартуністычнай недаацэнкай работы сярод беднаты. Усе практычныя мерапрыемствы правядзеньня ўборкі трэба прапрацаваць на сходах і групах беднаты. Батракі і бедната павінны быць у першых радох барацьбітоў за пасьпяховае правядзеньне ўборкі, першымі застрэльшчыкамі соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Завяршэньне веснавой сяўбы і ўборачнай кампаніі трэба ператварыць у новую, яшчэ больш магутную хвалю калгаснага прыліву бедняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы. Партыйныя, савецкія, прафсаюзныя, камсамольскія арганізацыі і ўся калгасная сыстэма павінны аддаць гэтай справе выключную ўвагу.

Па-бальшавіцку перамагаючы цяжкасьці, рашуча ламаючы кулацкае супраціўленьне, змагаючыся з агентамі кулака— апартуністамі — пасьпяхова правядзем уборачную кампанію і з большым яшчэ посьпехам, шпаркім тэмпам будзем прасоўвацца наперад па шляху суцэльнай калектывісацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы.





Трактарыстка-ўдарніца калгасу „Камінтэрн“.

# Бедната перамагла

*(Полацкі раён)*

У час падрыхтоўкі да другой бальшавіцкай вясны хваля калектывізацыі дакацілася і ў глухую вёску Залядзьдзе Алёсаўскага сельсавету. Пасьля вялікай масавай работы—24 сакавіка арганізаваўся калгас з 18 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Калгасьнікі адразу абагулілі насеньне і ўсе сродкі вытворчасьці.

Калгас стаў пашырацца. У дзень сьвяткаваньня 1-га мая ў калгасе налічвалася ўжо 38 гаспадарак. Усе дружна рыхтаваліся да веснавой сяўбы.

А кулакі праводзілі сваю работу. Яны ўсімі сіламі стараліся разбурыць маладую калектыўную гаспадарку. І калі партыйная ячэйка саўгасу „Палата“ 3 мая праводзіла сход калгасьнікаў, на якім абгаварвалася пытаньне зьвязанае з выездам у поле для правядзеньня сяўбы—кулакі і падкулачнікі асабліва праявілі сваю актыўнасьць. Кулакі сарвалі ўрэшце сход і адразу-ж з калгасу вышла 28 гаспадарак.

Кулакі радаваліся, насьмяхаліся, над застаўшыміся ў калгасе 10-ю беднякамі.

— Нічога ня выйдзе з вашай працы, прыдзеце да нас прасіць хлеба.

Але нядоўга працягвалася ўрачыстасьць кулакоў. На другі дзень у вёску Залядзьдзе прыехала з Райвыканкому брыгада і сумесна з партыйнай ячэйкай склікала ўсіх беднякоў і сераднякоў гэтай вёскі.

Таварышы з раёну падрабязна расказалі на сходзе аб пастановах IV Усесаюзнага зьезду саветаў, 13-га Ўсебеларускага зьезду калгасаў, растлумачылі палітыку партыі ў галіне перабудовы сельскай гаспадаркі.

Бурны быў сход. Беднякі выступалі, гаварылі, што кулацкая і заможная частка вёскі перашкаджае арганізавацца ў калгас. Кулакі з сваімі памоцнікамі дамагаліся сарваць і гэты сход.

Сход скончыўся перамогай беднаты і сераднякоў. Да 10 гаспадарак, якія знаходзіліся ў колгасе, падалося яшчэ 30 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

У гэты-ж дзень было абагулена ўсё насеньне, увесь інвэнтар і вёска Залядзьдзе калектыўна выехала ў поле праводзіць веснавую сяўбу.

**Язэп Саўчанка.**

# У атаку за лён і каноплі!

**Калгасы — фабрыкі сыравіны для сацыялістычнай прамысловасьці**

## ЗАСЕЯЦЬ 240800 *га* ІЛЬНОМ 40000 *га* КАНАПЛЁЙ!

## Закон аб ільготах пасеўшчыкам ільну і канапель давесьці да кожнага калгасьніка, бедняка і серадняка—аднаасобніка

Савет Народных Камісараў СССР устанавіў дадатковыя ільготы пасеўшчыкам ільну і канапель.

**1. Прырост пасеўных плошчаў ільну і канапель у полі вызвалены ад абкладаньня с.-г. падаткам.**

„а) Вызваліць ад абкладаньня адзіным с.-г. падаткам увесь прырост пасеваў ільну і канапель супроць 1930 г.“

„б) Вызваліць ад абкладаньня адзіным с.-г. падаткам у 1931 і 1932 г. усе пасевы ільну і канапель на землях новаасвоеных за гэтыя гады“.

„в) Вызваліць ад абкладаньня ў 1931 г. і 1932 г. усе пасевы канапель у полі.“

**2) Пасевы ільну і канапель калгасаў і аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак застрахоўваюцца дармова.**

„г) Устанавіць на 1931 г. абавязковае акладное страхаваньне пасеваў ільну і канапель ад засухі, прычым для калгасаў і аднаасобных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак гэтае страхаваньне павінна быць дармовым“.

**3. Дапускаецца замена збожжавых культур валакна насеньнем ільну і канапель пры выкананьні ў 1931 г. кантрольных дагавораў і самаабавязацельстваў.**

„д) Пры выкананьні ў 1931 г. кантрактацыйных дагавораў і самаабавязацельстваў па здачы збожжавых культур дапусьціць замену збожжа (апрача гатунковага) валакном і насеньнем ільну і канапель. Пры гэтай замене 1 кілёгр. насеньня ільну і канапель прыраўноўваецца да 2 кілёгр. збожжа. Нормы-ж замены збожжа валакном устанаўляюцца Наркамснабам СССР па згодзе з Наркамземам СССР.

Замена гэтая дапускаецца толькі пасьля таго, як пасеўшчыкі выканаюць поўнасьцю кантрактацыйныя дагаворы і самаабязацельствы па здачы валакна і насеньня ільну і канапель ураджаю 1931 г.“

**4. Ільготы пасеўшчыкам ільну і канапель пры выкананьні плянавых збожжазагатовак.**

„Вызваліць ад выкананьня плянавых заданьняў па збожжазагатоўках раёны і сельсаветы спажыўной паласы і нязбожжавых раёнаў вырабляючай паласы ў тых выпадках, калі ў бягучую веснавую кам-



**Трактарыстка за работай у полі** (калгас імя „9 студзеня", Коўданаўскі раён)

панію будзе засеяна па раёну ці сельсавету ў цэлым ня менш 20% агульнай пасеўнай плошчы ільномдаўгунцом, або ня менш 10 проц. каноплямі".

„Ухваліць правядзеньне галоўленкомам са згоды НКЗ СССР і Наркамснабу СССР павышэньне на 30 проц. загатоўчых цэн на валакно, трасту і салому ільну і канапель ураджаю 1930 і 1931 г."

**5. У ільнаводныя і канапляводныя раёны—дадатковы завоз прамтавараў.**

„У мэтах заахвочваньня тых калгасаў і аднаасобных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, якія пашыраць пасевы ільну і канапель супроць мінулага году, абавязаць Наркамснаб Саюзу ССР забясьпечыць дадатковы завоз прамтавараў у ільнаводныя і канапляводныя раёны ў маі і чэрвені 1931 г. Гэтыя тавары павінны прадавацца выключна калгасам і аднаасобным бядняцкім і серадняцкім гаспадаркам, якія пашырылі пасевы ільну і канапель супроць 1930 г."

Гэтую пастанову Савету Народных Камісараў СССР неабходна давесьці да калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас аднаасобнікаў. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк-аднаасобнік павінны добра ведаць, якія прадстаўляе ўрад ільготы пасеўшчыкам ільну і канапель.

Райвыканкомы павінны зараз-жа праверыць як выконваюцца калгасамі і бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі абавязацельствы па пасеву ільну і канапель, і забясьпечыць сваячасовае і поўнае выкананьне дагавораў.

Прымусіць кулацка-заможныя гаспадаркі поўнасьцю і сваячасова выканаць дадзеныя ім цьвёрдыя заданьні па пасеву ільну і канапель.

# Перавыканалі плян сяўбы тэхкультур

(*Хойніцкі раён*)

Калгас „Прасьвет", Хойніцкага раёну 25 мая скончыў сяўбу ўсіх культур з перавыкананьнем пляну тэхнічных культур (лён і каноплі) на 50 проц.

Акрамя гэтага калгас „Прасьвет" дапамог уноўарганізаванаму калгасу „КІМ" выканаць плян сяўбы. **Калгасьнік.**



# Павысіць ураджай ільну і канапель

Другая бальшавіцкая сяўба павінна даць рашучы пералом у пашырэньні пасеваў ільну і канапель. Вялікае месца ў пасеўных плошчах гэтых культур ужо ў гэтым годзе належыць калектыўным гаспадаркам, з 240.800 *га* пад ільном—у калгасах БССР павінна быць засеяна ня менш 86.000 *га* і з 40.000 *га* пад канаплямі—у калгасах павінна быць засеяна ня менш як 13.000 *га*. Трэба выкарыстаць усе маючыся магчымасьці для перавыкананьня плянавых заданьняў пасеву ільну і канапель у калгасах.

Аднак трэба памятаць, што перад кожным калгасам стаіць задача ня толькі поўнасьцю выканаць пляны сяўбы, але і арганізаваць правільны догляд за пасевамі ільну і канапель.

**Правільны догляд за ільном і канаплёй—павялічвае ўраджайнасьць і паляпшае якасьць валакна і пянькі.**

Наколькі значны ўплыў мае праполка лёну на павышэньне ўраджаю і паляпшае якасьць прадукцыі, у прыватнасьці ільнавалакно, магчыма з яскравасьцю бачыць з вынікаў, атрыманых Пскоўскай Дасьледчай Станцыяй, якая правяла праполку лёну ў частцы калгасаў Пскоўшчыны.

| | Без праполкі | | Пры аднаразовай прап. | | Пры 2-х разов. праполцы | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Насеньне | Валак. | Насеньне | Валак. | Насеньне | Валак. |
| 1. Ураджай з 1 *га* у цнт. | 3,69 | 2,52 | 5,08 | 3,13 | 5,72 | 3,24 |
| 2. Прыбаўка ўраджаю ў %% | — | — | 37,7 | 24,3 | 35,5 | 36,7 |
| 3. Сярэдні № ільнавалакна | — | 12,01 | — | 12.41 | — | 14,37 |

Досыць прыведзеных паказчыкаў, каб з упэўненасьцю сказаць, што затрачаны труд на праполку цалкам акупаецца тэй прыбаўкай ураджаю і якасьцю самой прадукцыі, якая атрымоўваецца ад правядзеньня праполкі.

Вось чаму кожны калгас павінен паставіць сваёй мэтай, каб у гэтым годзе ніводнага *га* засеянага ільну не пакінуць без праполкі.

Пры стварэньні ў часе ўсходу на пасевах ільну кары, абавязкова правесьці баранаваньне атылкам бараны ці пракатваньне кальчатым катком.

На працягу лета абавязкова правесьці ня менш аднаго разу поліва на ўсёй плошчы пасеву ільну, робячы гэта ў часе даўжыні каліва 10-18 сантымэтраў (2-4 вяршкі) і пры сярэдняй вільготнасьці глебы.

Праполку трэба пачынаць, прыкладна, пасьля 2-х тыдняў з часу зьяўленьня ўсходаў і праводзіць яго пры даўжыні сьцябла лёну ня больш 10-18 сантым. (2-4 вярш.). Больш доўгі лён палоць не раіцца, паколькі прыгнутае нагамі прапольшчыка сьцябло да зямлі можа ня выпраміцца і як вынік, значна адаб'ецца на якасьці і колькасьці ільняной прадукцыі. Каб лён менш цярпеў ад вытаптваньня ў час праполкі працу неабходна праводзіць босаму, ідучы супроць ветру; у гэтым выпадку прыгнуты лён лягчэй выпрамляецца. Само полівa трэба праводзіць дасканала з тым, каб на засеве не застаўляць ніводнай расьліны пустазельля. У сухое і дужа сырое надвор'е вытвараць полівa не раіцца, паколькі ў першым выпадку сумесна з камкамі зямлі пры вырываньні расьлін пустазельля вырываецца і лён, а ў другім—лён дужа прыгінаецца нагамі прапольшчыка. Лепшым часам полівa зьяўляецца раньне і вечар сьветлага дню.

### Як рыхтавацца, арганізоўваць і праводзіць полку

Для таго, каб не спазьніцца з праполкай і правесьці яго сваячасова, кожны калгас, асабліва ільнаводны, павінен заразжа пачаць рыхтавацца да правядзеньня праполкі. Падрыхтоўчая праца павінна быць накірована ў бок дасканалай прапрацоўкі тэрмінаў пачатку і канца праполкі ,норм выпрацоўкі, патрэбнасьці ў людзях для забесьпячэньня

сваячасовага правядзеньня прапол кі і парадак арганізацыі рабочай сілы.

Практычна распрацоўку гэтых пытаньняў трэба пачынаць і весьці наступным чынам:

Возьмем для прыкладу калгас, у якім плошча засеянага лёну ў 40 *га*. Пры чым пасеяна лёну 15-V—10 *га*, 25-V—10 *га* і 5-VI—20 *га*. Так як прапол ку трэба пачынаць, прыкладна, пасьля 3-х тыдняў з часу пасеву, то тэрмін пачатку прапол кі першай сяўбы на плошчы 10 *га* будзе—5 VI, другога—на плошчы 10 *га*—15-VI і трэцяга—на плошчы 20 *га*—24-VI. Праполка не павінна працягвацца больш 5 дзён.

### Поліва арганізаваць толькі зьдзельна

Устанавіўшы, такім чынам, тэрміны пачатку і канца прапол кі, неабходна прыступіць да распрацоўкі і ўстанаўленьня норм выпрацоўкі. Каб прапалоць 1 *га* лёну патрэбна людзей, пры слабай засьмечанасьці 7 чал., сярэдняй—10 чал. і вялікай—12 ч., гэта значыць норма выпрацоўкі аднаго чалавека за адзін-працадзень будзе пры слабай засьмечанасьці—$^1/_7$ *га*, сярэдняй $^1/_{10}$ і вялікай $^1/_{12}$. Праца па прапол цы адносіцца да працы сярэдняй, гэта значыць, са зьдзельнай расцэнкай 1 *га* пры слабай—7, сярэдняй 10 і вялікай 12 працадзён.

Ведаючы тэрміны, у якія павінна скончыцца праполка і патрэбнасьць у людзях на адзін *га* прапол кі магчыма ўстанавіць колькі трэба людзей на адзін дзень і на ўвесь час прапол кі на кожны пэрыяд. Возьмем для прыкладу першы пэрыяд, у які неабходна прапалоць у 5 дзён 50 *га*, а адгэтуль у 1 дзень трэба зрабіць прапол ку на 10 *га* (50 : 5 будзе 10). Далей, прыняўшы засьмечанасьць пустазельлем засеву лёну за сярэднюю, на кожны *га* патрабуецца 10 чалавек у адзін працадзень, а на 10—100 чалавек, такім-жа разьлікам праводзіцца патрэбнасьць у людзях і на ўсе астатнія пэрыяды поліва.

### Сваячасова арганізаваць брыгады

Устанавіўшы патрэбнасьць у людзях на кожны пэрыяд прапол кі, неабходна



За прапол кай у парніках (калгас „Ланд Арбайт)

прыступіць да складаньня брыгад з калгасьнікаў. Брыгады на гэтую работу трэба арганізоўваць у першую чаргу з жанчын і падлеткаў. Склад брыгады ня трэба рабіць больш 30-ці асоб. Пры такім складзе, лепш забясьпечыць як колькасьць, так і якасьць работы.

Работу па прапол цы праводзіць выключна зьдзельным шляхам, на падставе норм выпрацоўкі і са зьдзельнай расцэнкай у працаднёх. У выпадку арганізацыі работы брыгаднай дзельшчынай, зьдзельная расцэнка ўстанаўліваецца на ўсю брыгаду і па выкананьні работы падзяльецца паміж удзельнікамі. Напрыклад, брыгада 30 асоб. Норму выпрацоўкі аднэй асобы пры сярэдняй засьмечаньсьці—$^1/_{10}$ *га*, г. зн., што норма выпрацоўкі для ўсёй брыгады будзе—3 *га* за працадзень ($30 \times ^1/_{10} = 3$ *га*). За выпрацаваную норму кожнаму ўдзельніку залічваецца па аднаму працадню. Калі-ж брыгада прапалола 3,6 *га*, то кожнаму ўдзельніку будзе залічана не па аднаму працадню, а па 1,2 працадня.

Распрацаваныя такім чынам нормы выпрацаўкі, зьдзельная расцэнка і парадак правядзеньня самой работы па прапол цы павінны быць абгавораны на сходах брыгад і агульным сходзе калгасу. Тут-жа на сходах абгаварваюцца і заключаюцца ўмовы па сацспаборніцтву як паміж брыгадамі, так і асобнымі калгасьнікамі.

**Кавалёў.**

# УЗМАЦНІЦЬ РАБОТУ СЯРОД КАЛГАСЬНІЦ

**Поўнасьцю выкарыстаць жаночую працу ў часе ўборкі ўраджаю.**
**Шырэй соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод калгасьнікаў!**

## МАСАВУЮ РАБОТУ СЯРОД КАЛГАСЬНІЦ ПАДПАРАДКАВАЦЬ ЗАДАЧАМ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

У мінулым годзе масавая работа сярод калгасьніц была пастаўлена зусім дрэнна. Асабліва гэта выявілася ў недапушчальна нізкім удзеле калгасьніц у тых галінах сельскай гаспадаркі, у якіх звычайна ўжываецца пераважна жаночая праца.

*„У 1931 годзе — ва ўмовах далейшага аграмаднага ўздыму калгаснага руху — у наяўнасьці ня толькі колькасны рост ліку сялянак — бяднячак і сераднячак, ахопленых калгасамі, але і бясспрэчны зрух у настроях масы калгасьніц у карысьць калектыўнай працы і калектыўнай гаспадаркі. Гэты пералом павінен быць замацаваны шляхам рашучага разгортваньня масавай работы сярод калгасьніц і выкарыстан як вагар далейшай мабілізацыі сялянак-аднаасобніц вакол калектывізацыі“* (з пастановы ЦК УсеКП(б).

Таму задача кожнай партыйнай ячэйкі і кожнага праўленьня калгасу — шляхам разгортваньня масавай работы — замацаваць пералом у настроях калгасьніц у карысьць калектыўнай працы і калектыўнай гаспадаркі. *„Пакласьці ў аснову масавай работы сярод калгасьніц разьвіцьцё вытворча гаспадарчай актыўнасьці і ініцыятывы шляхам шырокага прымяненьня жаночай працы на ўсіх відах сельска-гаспадарчых работ, у тым ліку і кваліфікаваных (трактары, складаныя машыны), правільную організацыю працы (зьдзельшчына), разгортваньне сярод калгасьніц соцспаборіцтва, ударніцтва, агратэхнічнай вучобы“.*

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на поўнае выкарыстаньне жаночай працы і разьвіцьцё гаспадарчай ініцыятывы ў такіх галінах калектыўнай гаспадаркі, як тэхнічныя культуры (лён, каноплі), гародніцтва, жывёлагадоўля, маслазагатоўкі, птушкаводзтва і інш.

Адпаведна з гэтым трэба перабудаваць усю работу дэлегацкіх сходаў калгасьніц. Трэба дасягнуць масавага ўцягненьня калгасьніц у калгасныя вытворчыя нарады, акрамя таго практыкаваць скліканьне спэцыяльных вытворчых нарад жанчын-калгасьніц па пытаньням такіх галін калектыўнай гаспадаркі, у якіх праца жанчын зьяўляецца асноўнай (гародніцтва, малочная гаспадарка і інш.), арганізоўваючы працу брыгадай, спэцыялізуючы работу па галінах гаспадаркі.

На аснове грамадзкай самадзейнасьці калгасьніц неабходна шырока разгарнуць масавую культурна-бытавую работу вакол ясьляй, дзіцячых пляцовак, школьных і лекавых устаноў з тым, каб заraз-жа падрыхтавацца к поўнаму абслугоўваньню дзяцей калгасьнікаў у час уборачнай кампаніі і тым самым даць магчымасьць калгасьніцам прыняць актыўны ўдзел па ўборцы ўраджаю. Абслугоўваньне дзяцей калгасьнікаў у час гэтай кампаніі павінна ўвайсьці таксама ў плян правядзеньня калгасамі ўборкі.

Да гэтага часу яшчэ вельмі дрэнна абстаіць справа з вылучэньнем калгасьніц на кіруючую работу. Таму ЦК УсеКП(б) паставіў перад мясцовымі партыйнымі арганізацыямі і калгаснай сыстэмай задачу *„паставіць падрыхтоўку і вылучэньне кадраў з калгасьніц як на нізавую кіруючую вытворчую і культурна-бытавую работу (брыгадзіры, загадчыкі гаспадарчымі вучасткамі, тэхнічныя пасады па малочнай справе, выхавальніцы ў ясьлях і дзетсадох і інш.), так і на работу ў праўленьнях калгасаў і па кіраўніцтву асобнымі калгаснымі прадпрыемствамі (маслазаводы, заводы па пераапрацоўцы с.-г. сыравіны і інш.)*.

Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) даў дырэктывы фракцыям ЦВК СССР і ЦВК саюзных рэспублік забясьпечыць выдзяленьне сродкаў з культурна-бытавых фондаў і прадугледзіць асыгнаваньне гэтых сродкаў у бюджэтах. Мясцовыя парторганізацыі і райкалгасеаюзы павінны прасачыць за тым, каб правільна скарыстоўваліся спэцыяльныя сродкі, якія адлічваюцца ў культурна-бытавыя фонды калгасаў.



Ударніца калгасу „Чырвоны Спец" Галена Лішай за працай у парніках.

Мясцовыя партыйныя арганізацыі павінны зараз-жа разгарнуць належную работу па ажыцьцяўленьні дырэктыў Цэнтральнага Камітэту нашай партыі. Пастанову ЦК *„аб рабоце сярод калгасьніц"* давесьці да кожнай калгасьніцы, а таксама да кожнай бядначкі і серадначкі-аднаасобніцы.

Ва ўсёй правадзімай масавай рабоце сярод калгасьніц галоўнае павінна быць—гэта далейшая арганізацыя прыліву ў калгасы бядначак і серадначак.



Калгасьніца-ўдарніца піша заявы аднаасобнікам аб уступленьні ў калгас.

# ДА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА ЗЬЕЗДУ КАЛГАСЬНІЦ

*20 чэрвеня адчыняецца Ўсебеларускі зьезд калгасьніц.* Гэты зьезд мае надзвычайна важнае значэньне ў далейшым пасьпяховым разгортваньні суцэльнай калектывізацыі і на гэтай аснове ліквідацыі кулацтва як клясы. Дырэктыву пленуму ЦК КП(б)Б аб калектывізацыі 30 процантаў гаспадарак БССР у веснавую сяўбу мы выканалі і пасьпяхова ідзём па шляху вакананьня 45 проц. калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак да канца гэтага году.

*Вынікі веснавой сяўбы і задачы ўборачнай кампаніі—важнейшае пытаньне зьезду.* Лепшы актыў калгасьніц БССР абгаворыць дасягнутыя ў веснавую сяўбу посьпехі, адзначыць недахопы з тым, каб не паўтараць гэтыя недахопы ў будучым і намеціць практычныя мерапрыемствы па ўборцы ўраджаю.

Надыходзячая ўборка мае выключнае гаспадарча-політычнае значэньне. Мала таго, каб поўнасьцю і ў тэрмін выканаць пясеўныя пляны, трэба ва што-б ні стала поўнасьцю і своечасова ўбраць ураджай.

У час уборкі кожная хвіліна дарага. Таму пляны ўборачнай кампаніі павінны быць складзены так, каб дасканала прадугледжвалі расстаноўку рабочай сілы і машын. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на поўнае і рацыянальнае выкарыстоўваньне ў час уборкі жаночай працы ў калгасах. Зьезд калгасьніц павінен будзе дэталёва абгаварыць і намеціць практычныя мерапрыемствы па абслугоўваньні дзяцей калгасьнікаў у час уборачнай кампаніі з тым, каб аблягчыць актыўны ўдзел калгасьніц па ўборцы ўраджаю.

*Арганізацыя працы ў калгасах—галоўнейшае ў калгасным будаўніцтве.* Гэтаму пытаньню зьезд калгасьніц аддасьць вялікую ўвагу. Партыя і VI Усесаюзны зьезд Саветаў далі зусім выразную дырэктыву аб пераводзе ўсіх калгасаў на зьдзельшчыну, па лініі Калгасцэнтру дадзены рад практычных паказаньняў па гэтым пытаньні, аднак мы маем рад калгасаў, якія да гэтага часу яшчэ не перайшлі на зьдзельшчыну, альбо перайшлі фармальна, на паперы толькі. Таму зьезд калгасьніц асаблівую ўвагу павінен аддаць пытаньню аб пераходзе на зьдзельшчыну і наладжваньню вучоту працы ў калгасах.

Зьезд павінен будзе намеціць практычныя мерапрыемствы *„шырокага прымяненьня жаночай працы на ўсіх відах сельска-гаспадарчых работ і ў тым ліку кваліфікаваных (трактары, складаныя машыны)“* (з пастановы ЦК УсеКП(б).

*Культурна-масавая работа павінна займаць вялікае месца ў жыцьці калектыўных гаспадарак.* Гэтую работу ні ў якім разе нельга адрываць ад іншых работ у калгасах. Посьпех усіх гаспадарча-палітычных кампаній (сяўба, уборка ўраджаю, загатоўкі і інш.) заўсёды залежаць ад таго, як пастаўлена культурна-масавая работа сярод калгасьніц і калгасьнікаў. А між тым, гэтая работа ў калгасах пастаўлена зусім дрэнна, асабліва сярод калгасьніц.

У настроях мас калгасьніц мы маем пэўны зрух у карысьць калектыўнай працы і калектыўнай гаспадаркі. Усебеларускі зьезд калгасьніц павінен зьявіцца рашаючым у замацаваньні гэтага пералому і намеціць мерапрыемствы па разгортваньні культурна-масавай работы сярод калгасьніц.

Разгорнутай самакрытыкай калгасьніцы па-бальшавіцку вырашаць усе пытаньні, якія стаяць у парадку дню зьезду і разьехаўшыся на месцы зьявяцца яшчэ больш актыўнымі барацьбітамі за суцэльную калектывізацыю і ліквідацыю на яе аснове кулацтва як клясы.

С.

**„Да канца пяцігодкі калектывізацыя СССР павінна быць у асноўным скончана“**

(Сталін).

# Зьдзельшчыну—да кожнага калгасьніка

**Унядрэньнем зьдзельшчыны на ўсе віды работ, правільным улікам працадзён кожнага калгасьніка—забясьпечым пасьпяховае завяршэньне веснавой сяўбы і сваячасовую ўборку ўраджаю.**

## УЛІК ПРАЦЫ—АСНОЎНАЕ ЗЬВЯНО ЗЬДЗЕЛЬШЧЫНЫ

Пасьпяховае правядзеньне веснавой сяўбы, сваячасовае яе сканчэньне ўсімі калгасамі, а разам з тым арганізацыя сваячасовага і правільнага догляду за пасевамі і правядзеньне летніх работ,—у сучасны момант рашуча патрабуюць хутчэйшага ўвядзеньня і замацаваньня зьдзельшчыны ва ўсіх калгасах і на ўсіх работах.

Вопыт соцень і тысяч калгасаў, якія практычна ўжо ажыцьцявілі пераход на зьдзельшчыну, паказвае станоўчыя вынікі як у падвышэньні вытворчасьці працы, гэтак і ўмацаваньні працоўнай дысцыпліны калгасьнікаў.

Вытворчасьць працы з пераходам на зьдзельшчыну павялічваецца ў $1^1/_2$ і 2 разы.

Напрыклад, у калгасе „Новае жыцьцё", Уваравіцкага раёну брыгада аратых у 29 асоб з пераходам на зьдзельшчыну ўспахала 28 *га* альбо 0,96 *га* на 1 плуг, супроць вызначай аднадзеннай нормы выпрацоўкі для 2-х коннага звычайнага плуга 0,6 *га*.

У калгасе „Пралетары" Магілеўскага раёну, з пераходам на зьдзельшчыну ўдарная брыгада аратых у 10 парахонных плугоў сваё вытворчае заданьне па ўспашцы 36 *га* за 6 дзён выканала ў 5 дзён.

У калгасе „Рой", Барысаўскага раёну брыгада аратых з пераходам на зьдзельшчыну аднадзенную норму выпрацоўкі павялічыла з 0,5 *га* да 0,8 *га* на адзін двухконны плуг.

З прыведзеных прыкладаў мы можам бачыць, якое вялікае значэньне мае правільнае ажыцьцяўленьне зьдзельшчыны ў справе падвышэньня вытворчасьці працы. Таму зьдзельшчына расцэненая ў працаднёх з кожным днём усё больш унядраецца ў практыку калгасаў і замяняе сабою ўсе іншыя спосабы арганізацыі калектыўнай працы. Вось чаму ўжо звыш 80 проц. калгасаў БССР перайшлі да ўжываньня зьдзельшчыны.

Але разам з гэтым было-б буйнай памылкай не заўважыць маючыяся недахопы ў справе пераводу калгасаў на зьдзельшчыну і яе замацаваньня. Адным з буйнейшых недахопаў у гэтай справе зьяўляецца той факт, што на сёнешні дзень, калі ўжо ўсюды разгарнулася масавая калгасная сяўба, каля 20 проц. калгасаў зусім ня ўжываюць зьдзельшчыны. Па-другое—значная частка калгасаў зьдзельшчыну ўжываюць толькі часткова і па шэрагу асноўных гаспадарчых работ карыстаюцца падзёншчынай.

Ёсьць шмат выпадкаў, калі пераход на зьдзельшчыну адбываецца толькі фармальна, прынялі нормы выпрацоўкі і на гэтым супакоіліся, а на справе працягвае заставацца звычайная падзёншчына.

Аднэй з галоўнейшых перашкод пасьпяховаму пераходу калгасаў на зьдзельшчыну і асабліва замацаваньню зьдзельшчыны ва ўсіх калгасах—зьяўляецца неналаджанасьць штодзеннага ўліку працы калгасьнікаў, неразуменьне значнай часткі калгасаў і асабліва новых калгасаў таго, як практычна пры зьдзельшчыне ўвесьці правільны ўлік працадзён.

Пры падліку, працадні часта зьмешваюцца з звычайным рабочым днём і апрадзяляюцца ня колькасьцю выкананай кожным калгасьнікам работы і пэўнай яе якасьці, а праведзеным на рабоце часам, што супярэчыць асноўнаму прынцыпу зьдзельшчыны і зрывае практычны пераход да яе ўжываньня. Напрыклад, у калгасе імя Будзённага, Увараўіцкага раёну, ударная брыгада жанчын у 8 асоб, з пераходам на зьдзельшчыну, вызначаную ёй аднадзённую норму выпрацоўкі па разьбіўцы гною перавыканала ў 2 разы: замест 1 *га* на кожныя 3 асобы—выканалі па 2 *га* і скончылі раней тэрміну. Пры правільнай пастаноўцы зьдзельшчыны, за гэтую работу трэба было кожнай калгасьніцы сьпісаць у два разы большую колькасьць працадзён, адпаведна прынятай калгасам зьдзельнай расцэнкі работ. Праўленьне-ж калгасу паступіла зусім наадварот, у сувязі з тым, што работа калгасьнікамі была скончана раней тэрміну, меней чым за поўдня рабочага дню, ім залічылі толькі па палове працадня.

Зразумела, што такі падыход да падліку працадзён пры зьдельшчыне зусім няправільны. Ён падрывае зьдзельшыну.

Возьмем другі прыклад: калгас „Чырвоны хлебароб“ Гомельскага раёну прадстаўляе сабой адну з буйных садова-гародных гаспадарак. Пераход на зьдзельшчыну па асноўных работах у садоўніцтве і гародніцтве ў асноўным адбыўся правільна. Утвораны 2 сталыя брыгады па гародніцтву, парнікаводзтву і садоўніцтву ў 13—15 асоб кожная. Каля



Ударніца—калгасьніца (калгасу „Бальшавік“, Самахвалавіцкі раён).

50 проц. у брыгадах займаюць жанчыны. На кожную работу вызначана аднадзенная норма выпрацоўкі і зьдзельныя расцэнкі ў працаднёх. Пытаньне пераходу на зьдзельшчыну абмяркована на вытворчых нарадах калгасьнікаў. Штодзенны падлік выпрацаваных кожным калгасьнікам працадзён вядзецца правільна—залежна ад таго, колькі той або іншы калгасьнік выканаў работ і якая вызначана зьдзельная расцэнка адзінкі гэтай работы. Напрыклад, калі калгасьніцы па пасеву расьлін у парнікі замест вызначанай аднадзеннай нормы ў чатыры рамы на адну асобу з расцэнкай гэтай нормы ў 1 працадзень засявалі па 12 рам, гэта значыць у 3 разы больш, так і выпісваецца ім за гэтую работу па прынятай калгасам зьдзельнай расцэнцы не адзін, а 3 працадні, не залежна ад таго, колькі

часу яны працавалі на гэтай рабоце, але і ў гэтым калгасе ёсьць адмоўныя бакі ў гэтай справе. Па-першае, выпрацаваныя калгасьнікамі працадні на працягу цэлых месяцаў не запісваюцца ў працоўныя ці членскія кніжкі калгасьнікаў і нават ня вывешваюцца на відным месцы, у выніку чаго калгасьнікі ня ведаюць колькі ім запісана працадзён, што выклікае непаразуменьне паміж калгасьнікамі і зьніжае зацікаўленасьць да работы. Акрамя таго пры распрацоўцы норм выпрацаўкі ня былі дасканала ўлічаны ўсе магчымасьці да падвышэньня вытворчасці працы і па шэрагу работ нормы прыняты яўна паменшаныя.

Правільная арганізацыя штодзеннага ўліку працы калгаснікаў у сучасны момант мае надзвычайна вялікае значэньне ў справе практычнага ажыцьцяўленьня зьдзельшчыны ў калгасах. На падставе рашэньняў 1-й Усесаюзнай нарады калгасьнікаў па арганізацыі працы Наркамземам і Калгасцэнтрам СССР распрацованы формы ўліку працы, якія цалкам адпавядаюць запатрабаваньням зьдзельшчыны і зьяўляюцца досыць простымі і зразумелымі і даступнымі для кожнага пісьменнага брыгадзіра-калгасьніка.

Падлік працы па гэтым формам у асноўным складаецца з наступнага:

а) складаньне нараду, б) сьпісаў у паіменны сьпіс удзельнікаў у выкананьні нараду, в) сьпісу працадзён у працоўнай кніжцы калгасьнікаў.

Першая частка нараду пад назвай „даручаецца выканаць“, як правіла запаўняецца кіраўнікамі адпаведных галін гаспадаркі, ці праўленьнем калгасу напярэдадні пачатку работ, пасьля чаго нарад перадаецца брігадзірам для выкананьня. Штодзенны ўлік працы па форме паіменнага сьпісу вядзе кожны брыгадзір па сваёй брыгадзе непасрэдна на месцы выкананьня работ. Супроць прозьвішча кожнага калгасьніка ў паіменным сьпісу брыгадзір штодзенна запісвае толькі колькасьць выкананай ім работы, незалежна ад таго, якая ўжываецца—паасобная ці групавая.

Па колькасьці выкананай калгасьнікам работы і прынятай калгасам зьдзельнай расцэнкай гэтай работы ў працаднёх брыгадзір штодзенна апрадзяляе колькасьць працадзён, належачую за выкананую работу кожнаму калгасьніку. Выпрацаваная кожным калгасьнікам колькасьць працадзён запісваецца брыгадзірам штодзенна ў працоўныя кніжкі калгасьнікаў.

Працоўная кніжка калгасьніка зьяўляецца асноўным дакумантам, па якому ён удзельнічае ў разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю ў канцы гаспадарчага году.

Толькі ў канцы кожнага месяца запісу агульнай колькасьці працадзён з працоўнай кніжкі ў агульную членскую кніжку кожнага калгаснага двара апошнія здаюцца ў праўленьне калгасу. Такі парадак уліку працы калгасьнікаў і запісу выпрацаваным кожным калгасьнікам працадзён у працоўныя кніжкі відавочна пакажа кожнаму калгасьніку тое, што чым больш і лепш ён працуе, тым больш яму запісваецца працадзён, тым больш ён будзе ўдзельнічаць у разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю ў канцы гаспадарчага году. Д.

# Ня час праведзены на рабоце трэба ўлічваць, а колькасьць і якасьць выкананай работы.

# УДАРНІКІ КАЛГАСНЫХ ПАЛЁЎ

**Працоўны дзень ударнай і напружанай працы ў калгасе імя Дзяржынскага скончыўся.** Брыгады з заўзятымі песьнямі, жартамі варочаліся адна за аднэй з поля да дому.

А ў хаце-чытальні калгасу тэрмінова выпускаўся бюлетэнь ходу веснавой сяўбы. Адказныя брыгадзіры палявых брыгад рапартуюць на старонках бюлетэню аб выніках абавязкаў па сацспаборніцтву брыгады, аб сваіх перамогах і недахопах. У момант запаўняюцца лісткі бюлетэню фактамі і лічбамі працы ўдарнага дню.

13/V-31 году, з 4-х гадзін дню да 12 гадзін ночы ІІ-я зьмена трактарнай калёны ўзарала 15 *га*, з'эканоміла гаручага 30 кілёгр., аўтола 9 кілёгр. Сацумову з 1-й зьменай перавыканала на 3 *га* ворыва, 6 кілёгр. гаручага і 3 кілёгр. аўтола. Норма выпрацоўкі выканана на 200 проц.—заданьне 8,4 *га*, а выканана 15 *га* ворыва. Эканомія гаручага замест 240 кілёгр. патрачана 210, аўтола замест 42 кілёгр.—33. 2-я выклікала на сацспаборніцтва 3-ю трактарную калёну.

Так адрапартаваў ударнік дырэктар і мэханік калёны т. Шаманскі. Рапартавалі і ўсе астатнія брыгады. На чырвоную дошку ў бюлетэні занесьлі лепшых з лепшых ударнікаў сёнешняга дню.

Далей асноўнае і галоўнае—складаньне нарад работ на заўтрашні дзень па ўсіх вучастках калгасу. Вучасткаў 5. Кіраўнік—рабочы двацацціпяцітысячнік Маеўскі—дае баявы і канкрэтны плян работы.



Трактарная калёна ў полі (калгас Дзяржынскага, Буда-Кашалёўскі раён).

...Але і ноччу на калгасных прасторах ішла напружаная праца.

Шэсьць сталёвых коняй будзілі ваколіцу. Шэсьць маладых рулявых—начная зьмена—змагаліся за выкананьне плянаў другой бальшавіцкай.

Наперадзе трактарнай калёны прэміраваны ўдарнік тав. *Духвалаў*.

Кожны пільна сочыць за работай. Навойстранае вуха трактарыстага адразу ловіць кожны гук матора, кожную пераменнасьць у трактары. За работай

няма залішняй гаворкі, на паваротах толькі чуецца выразная, баявая каманда:

— Ня пускаць агрэху!

— Шырэй скібу!

— Не налязаць!

— Адлегласьць машына ад машыны на тры мэтры!

Рулявыя прыцішылі ход. Павольна і асьцярожна робяць паварот. А калі трактары вышлі на раўніну—зноў пададзена каманда паскорыць ход.

І наступны дзень дае новыя перамогі. У бюлетэні веснавой сяўбы новыя радкі перамог.

„14/V-31 г. III-я начная зьмена трактарнай калёны дабілася выпрацоўкі на 1 трактар 3 *га*, усяго ўзарата 18 гектараў. З'эканомлена яшчэ 6 кілёгр. гаручага і 2 кілёгр. аўтола“.

А раніцай роўна а восьмай гадзіне зьмена—ні хвіліны спазьненьня.

— Калёна стой!—камандуе калёнаважаты т. Духвалаў.

Тракары застанавіліся. Пачалася перадача трактараў новай зьмене. Каля кожнай машыны два рулявых. Кожны з новай зьмены ўважліва аглядае прымаемы трактар. Перадача працягваецца ўсяго некалькі хвілін і потым зноў чуецца каманда новага калёнаважатага тав. Шаўшова.

— Стройся!

Загулі маторы. Машыны выстраіліся і рынуліся на палі да новых перамог.

І дзякуючы таму, што трактарная калёна калгасу імя Дзяржынскага перайшла на бесьперапынную работу—маюцца бліскучыя вынікі. Калі пры двухзьменнай рабоце калёна выганяла на 1 трактар 1,5 *га*, дык зараз—3 і нават 4 *га* на трактар. Трактарная калёна поўнасьцю ліквідавала абязьлічку. **П. Зубровіч.**

## Ад рэдакцыі:

Рэдакцыя лічыць, што работа трактарнай калёны ў калгасе імя Дзяржынскага арганізавана няправільна. Няправільнасьць заключаецца ў тым, што на вучастку пры ўспашцы машыны пускаюцца адна за аднэй, што ў выпадку астаноўкі трактару, які ідзе наперадзе—прыводзіць да прастояў усіх машын. Трэба, каб кожная ў асобку машына атрымоўвала сваё заданьне, гэта яшчэ больш узьніме вытворчасьць і зьнішчыць прастоі.



Калгасьнікі ў часе перапынку на полі слухаюць радыё-перадачу.

# „Чырвоны Партызан“ скончыў сяўбу з перавыкананьнем пляну

*(Хойніцкі раён)*

Калгасы „Чырвоны Партызан“, „Сталін“, „Чырвоная Перамога“, „Каапэратар“ і „Камсамолец“ Хойніцкага раёну па-бальшавіцку разгарнулі сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва ў час сяўбы. Калгасы ўключыліся ў конкурс барацьбы за пераходны сьцяг.

Галоўныя пункты ўмоў: поўнае выкананьне плянаў, перавыкананьне плянаў па тэхнічных культурах, пераход на зьдзельшчыну, датэрміновае сканчэньне сяўбы.

Калгасы ўжо падыходзяць да сканчэньня сяўбы. Пляны выкананы на 75—80 проц.

22 мая калгас „Чырвоны Партызан“ скончыў ужо сяўбу з перавыкананьнем пляну.

**Селькор П—ч.**

# Калгас „Ударнік“ працуе па-ўдарнаму

*(Шклоўскі раён)*

Калгас „Ударнік“ арганізаваўся ў канцы 1930 году з 12 гаспадарак. Пры растлумачальнай рабоце аб пастановах VI зьезду Савету па калгаснаму будаўніцтву ў калгас улілося яшчэ 28 гаспадарак.

Такім чынам „Ударнік“ пачаў веснавую сяўбу з лікам 40 гаспадарак, што складае 45 проц. калектывізацыі вёскі Мікалаеўкі.

Уступіўшыя гаспадаркі зараз-жа абагулілі як інвэнтар, так і насенныя фонды і арганізаваным парадкам выехалі ў поле.

Калгас поўнасьцю перайшоў на зьдзельшчыну. Вось што жанчына калгасьніца заявіла праўленьню, калі сталі складаць брыгады:

— Што вы мне даеце дробную работу палоць ці даіць. Я жадаю запісацца ў брыгаду паляводаў і разам з імі выехаць араць, сілы ў мяне хопіць.

Гэтыя словы калгасьніцы Сундуковай гавораць за тое, што зьдзельшчына зьяўляецца лепшым арганізатарам у падняцьці прадукцыйнасьці працы, зьдзельшчына сьцірае грані паміж працаю мужчыны і жанчыны. Пры пастаноўцы ўдарнай работы калгас „Ударнік“ да 12-га мая скончыў успашку і да 1-га чэрвеня заканчвае ўсю сяўбу.

Дрэнна толькі тое, што няма цьвёрдага вучоту і ўліку працы па зьдзельшчыне. Часта траціцца час на вымерваньне плошчы, каб кожнаму падставіць дзень і г. д.

**Г. Шумілаў.**

# 110-гадовы ўдарнік

**(Полацкі раён)**

З ліку ўноў уступіўшых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, у калгас „Новае Жыцьцё“, Баярскі сельсавет, увайшоў 110-гадовы старык **Танькоў Клім**, які на сходзе калгасьнікаў аб‘явіў сябе ўдарнікам па выкананьні гаспадарчых работ у колгасе.

Канкрэтна тав. **Танькоў** узяў на сябе абавязак зрабіць на працягу аднаго працоўнага дню ня менш аднэй дзежкі чатырохвёдзернай ёмкасьці. Калі агульны сход даў на гэта згоду—Танькоў адразу-ж пашоў на месца загатоўкі лесаматар‘ялу за 5 кілёмэтраў ад калгасу.

— Пакуль буду магчы, буду па-ўдарнаму працаваць на карысьць калектыўнай гаспадаркі,—заявіў Танькоў Клім.

**Селькор. Л. К-ў**

# За ўздым ураджайнасьці калгасных палёў

## І

## СВАЯЧАСОВАЯ АПРАЦОЎКА ПАПАРУ—ЗАБЯСЬПЕЧЫЦЬ ВЫСОКІ ЎРАДЖАЙ АЗІМЫХ

Разам з правядзеньнем другой калгаснай вясны павінна быць шырока разгорнута работа па падрыхтоўцы да бальшавіцкай праполачна-паравой і ўборачнаасеньняй пасеўнай кампаніі.

Вопыт мінулага году, калі недастатковая падрыхтаванасьць некаторых калгасаў да гэтай кампаніі прывяла да зацяжкі ўборкі, а потым і да значных страт,—павінен быць дакладна ўлічаны ў гэтым годзе. Адным з важнейшых момантаў гэтай падрыхтоўчай работы зьяўляецца—сваячасовае і добраякаснае правядзеньне апрацоўкі папару.

Як вядома папары бываюць розныя:

а) позьнія, якімі звычайна карыстаюцца як выпасамі на працягу ўсяго лета і якія звычайна першы раз узорваюцца толькі ў канцы чэрвеня месяца перад самай уборкай;

б) чыстыя папары, якія ў першы раз узорваюцца на зіму, або раньняй вясной;

в) занятыя папары, якія засяваюцца ярыной, а пасьля ўборкі апошніх засяваюцца жытам.

Амаль кожнаму калгасьніку вядома, што лепшым, найбольш выгадным зьяўляецца заняты папар, які ў бліжэйшыя гады павінен поўнасьцю замяніць сабой усе іншыя віды папараў. Аднак у гэтым годзе ў шэрагу калгасаў прыдзецца яшчэ мець справу з незанятымі папарамі. Таму пытаньне апрацоўкі гэтых папараў (не занятых) павінна быць абгаворана шырокімі масамі калгасьнікаў, з мэтай вызначэньня тэрмінаў і спосабаў апрацоўкі папару, правядзеньня мерапрыемстваў па ўгнайваньню глебы і мерапрыемстваў па арганізацыі працы з чоткай увязкай работы ў іншых галінах гаспадаркі.

### Падрыхтоўка папару

Правесьці першае ворыва чыстага папару не пазьней 15 чэрвеня і правесьці двух-трохразовае баранаваньне папару ў залежнасьці ад засьмечанасьці пустазельлем.

Выканаць пры ворыве папару поўнасьцю заданьне па вапнаваньні пад азімыя.

Пры вызначэньні тэрмінаў апрацоўкі папару паставіць як задачу распачаць гэтую работу зараз-жа пасьля сканчэньня сяўбы асноўных яравых і скончыць у найкарацейшы тэрмін, на працягу ня больш як 6—10 дзён і ні ў якім разе не пазьней 15 чэрвеня. Чаму так? Таму што раньняя ўспашка папару, акрамя таго, што аслабаніць рабочую і цягавую сілу на пэрыяд уборкі сенажаці, канюшыны, раньніх збожжавых і інш., мае яшчэ наступныя перавагі перад позьняй у сэнсе ўздыму ўраджайнасьці зімовага жыта:

а) сарнякі сваячасова будуць запаханы і тым самым папярэджаны лішнія страты спажыўных матэрый глебы, якія неабходны для харчаваньня зімовых культур;

б) будзе захавана ў большай ступені вясеньняя вільготнасьць глебы, таму што шчыльная неўспаханая глеба значна выпарвае вільготнасьць (на сьцежках, шляхох, наогул утрамбаваных мясцох глеба летам бывае зусім сухой;

в) узараная пульхная глеба дае магчымасьць вольнаму прахаджэньню паветра ў глебу;

г) будуць прадстаўлены лепшыя ўмовы для разьвіцьця ў глебе карысных бактэрый, для жыцьця якіх і патрэбна пэўная колькасьць вільгаці і паветра. Бактэрыі раскладаюць арганічную частку

глебы і тым самым рыхтуюць спажыўныя матэрыі для харчаваньня, накапляючы галоўным чынам азот (салетру), які паглынаецца імі часткова і з вольнага паветра.

### Позьняя падрыхтоўка папару зьніжае ўраджайнасьць

Такім чынам затрымка ў успашцы папару прадстаўляе вольнае жыцьцё для сарнякоў, прыгнечвае разьвіцьцё вельмі карысных для сельскае гаспадаркі бактэрый глебы, зьніжае запасы спажыўных матэрый глебы, а разам з гэтым і ўраджай зімовых культур; акрамя таго вельмі ўскладніць арганізацыю працы ў час уборкі.

Далейшая апрацоўка папару павінна заключацца ў працягваньні барацьбы з сарнякамі і заплываньнем глебы на паверхні, шляхам пэрыядычнага лушчэньня, або баранаваньня, лепш першага, бо баранаваньне ня поўнасьцю зьнішчае сарняк, а часткова толькі прысыпае яго зямлёй; акрамя таго баранаваньне псуе структуру глебы.

Пры вызначэньні мерапрыемстваў па ўгнаеньні папараў неабходна мець на ўвазе, што ўсе віды ўгнаеньняў павінны быць унесены пад першую ўспашку папару за выключэньнем лёгка растварымых (супэрфасфату, калійных, азоцістых), якія магчыма ўносіць разам з апошняй прадасеньняй успашкай.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на вывазку гною, вапнаваньне і тарфаваньне глебы. Вывазку гною магчыма было-б адкласьці і да прадпасеўнай успашкі, асабліва на лёгкіх глебах, але гэта саўпала-б з уборкай, таму і вывазка гною, і асабліва вапнаваньне і тарфаваньне глебы ні ў якім разе нельга адкладаць да восені. Пэрыяд першага ўздыму папару зьяўляецца менш напружаным у гаспадарцы і ён павінен быць максымальна скарыстаны. Пры вывазцы і запашцы гною неабходна: вывазку больш буйнага саломістага гною прыстасаваць да цяжкіх глеб, уносіць меншыя нормы і запахваць няглыбока, дробнага гною—да больш лёгкіх глеб з павышанай нормай унясеньня і больш глыбокай запашкай. Сярэдняй нормай унясеньня гною на 1 *га* можна лічыць 30 тон.

### Выканаць плян вапнаваньня пад азімыя

Вапнаваньне глебы ва ўмовах БССР мае надзвычайна вялікае значэньне таму, што нашы глебы ў большасьці ападзоленыя, забалочаныя, з значнай квасьнасьцю. Унясеньне вапны патрэбна не для таго, каб даць вапну, як спажыўную матэрыю для расьлін (гэтак думаюць некаторыя калгасьнікі),—для гэтай мэты ў глебе маецца дастаткова вапны для большасьці культур. Вапна ўносіцца: а) для палепшаньня структуры лёгка распыльваючыхся цяжкіх, асабліва глінiстых і падзолістых глеб. Найлепшай структурай будзе дробна камкаватая, якая складаецца з дробных камочкаў глебы. У такую глебу добра праходзіць паветра, лепш трымаецца вільгаць. Вапна спрыяе злучэньню (цэмантаваньню) дробнай часткі глебы ў больш буйныя камкі,—пасьля вапнаваньня глеба робіцца больш пульхнай і рассыпчатай; б) вапна ўносіцца для зьнішчэньня квасьнасьці падзолістых і забалочаных глеб; квасьнасьць шкодна для бактэрый і расьлін, асабліва для канюшыны і бабовых, а вапна разбурвае кіслоты; в) вапна спрыяе лепшаму скарыстаньню ўгнаеньняў,—яна ўзмацняе дзейнасьць глебавых бактэрый, спрыяе лепшаму раскладаньню гною, зьнішчае квасьнасьць угнаеньняў, асабліва тарфяных, спрыяе затрыманьню спажыўных матэрый у глебе ад вымываньня.

Вось чаму неабходна на падставе шырокай растлумачальнай працы аб вялікай карысьці вапны, скарыстаць поўнасьцю для вапнаваньня глебы менш напружаны ў працы пэрыяд першага ўздыму папару, дабіўшыся выкананьня пляну вапнаваньня пад зімовыя і таго, што ня было выканана ў вясеньнюю пасеўкампанію.

Сярэдняя норма ўнясеньня вапны на 1 *га* 3 тоны, але гэта норма ў залежнасьці ад ступені квасьнасьці глебы можа дахоцзіць да 10 тон. Квасьнасьць глебы і норму ўнясеньня вапны можна апрадзяліць проста на вока, па расьліннасьці—шчавель, хвошч, асокі, люцік—лепшыя прыкметы квасьнасьці глебы. Аднак гэта рабіць лепш пры дапамозе спэцыяльнага прыбору „Унівэрсальнага індыкатара“

(каштуе каля 9 руб.), які неабходна набыць пры садзейнічаньні агранома кожнаму калгасу. Паніжаная норма ўнясеньня вапны ня дасьць належных вынікаў, павышаная, наадварот, можа прынесьці шкоду—спаліць пасевы, але-ж 3 тоны вапны на 1 *га* ніколі не пашкодзяць.

Уносіць вапну патрэбна добра размолатай, высяваючы ў полі роўнамерна, ні ў якім разе не дапушчаючы раскіданьня камкамі і кучкамі. Лепш рассяваць спэцыяльнымі вапнянымі сяўнікамі. Уносіць на палі, на якіх вясной будзе высявацца канюшына.

Вапна дзейнічае каля 10 год і дае прырост ураджаю, напрыклад, канюшыны каля 10—20 цэнтн. на 1 *га* з аднаго ўкосу.

### Торф узьнімае ўраджайнасьць

Магутнейшым сродкам уздыму ўраджайнасьці зьяўляецца тарфаваньне глебы. Торф на ўгнаеньне можа ўжывацца ў выглядзе падсьцілкі ў хлявох, кампоста з гноем, вапнай, фасфарытнай мукой, або простым унясеньнем у глебу чыстым торфам. Зразумела, што лепш ужываць яго ў выглядзе кампосту—у такіх выпадках ён дае ўраджай амаль у два разы больш, чым звычайны гной. Чысты торф таксама павялічвае ўраджай у два—тры разы. Пры ўнясеньні ў глебу чыстага торфу неабходна ў першую чаргу ўносіць яго на больш „прыпадлівых", цяжкіх і ападзоленых глебах і на палетках, дзе каля жыта мяркуецца сеяць бульбу. Сярэдняй нормай унясеньня на 1 *га* трэба лічыць 40 тон, павялічэньне нормы ўнясеньня дасьць і адпаведнае павялічэньне ўраджайнасьці. Пэрыяд праполачна-паравой кампаніі да ўборкі ўраджаю павінен быць максымальна скарыстаны ня толькі для поўнага скарыстаньня на ўгнаеньне торфу нарыхтовак мінулага году,—павінны быць разгорнуты вялікія работы па нарыхтоўкам торфу для 1932 году.

Бальшавіцкія тэмпы і ўменьне пабальшавіцку змагацца за найбольш поўнае скарыстаньне ўсіх гаспадарчых магчымасьцяй рашаюць посьпехі калгасу ў будаўніцтве буйнае соцыялістычнае гаспадаркі. Задачай кожнага калгасу зьяўляецца вызначыць і абгаварыць аб'ём пераліčаных мерапрыемстваў, вызначыць тэрміны правядзеньня іх, устанавіць нормы выпрацоўкі, арганізаваць брыгады, расставіць іх па вучасткам работ, устанавіць заданьні для кожнай брыгады з адпаведнай ацэнкай работ у працаднёх.

Лашкевіч.



Камунар Матусэвіч рамантуе касілку да ўборкі (камуна „Бальшавік", Самахвалавіцкі раен).

**Прывесьці ў гатоўнасьць сенаўборачныя машыны.**

# ЗА МОЦНЫ ФУНДАМАНТ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ЖЫВЁЛАГАДОУЛІ

**Ні хвіліны адцяжкі з уборкай сена! Поўнасьцю нагрузіць сенаўборачныя машыны.**

**Упарта змагацца за два ўкосы!**

## МЭХАНІЗУЕМ УБОРКУ СЕНА

### Якім чынам атрымаць найлепшае сена

Да апошнага часу звычайна сена сушылі ў радкох ці ў разьбіваным выглядзе і пра гэта можна сказаць, што такі спосаб дае значныя страты ў сене. Пры расьцярушваньні сена, варушэньні і г. д. абіваюць дробныя лісточкі і кветачкі расьлін, а таму бываюць значныя страты спажыўных матэрый. Цяпер самым правільным лічыцца спосаб сушкі сена ў больш менш сабраным стане—у валох ці копах. За межамі ўжываюць таксама сушку сена ў так званых „віндроўэрных радкох“. Бакавыя граблі пасьля праходу касілкі зграбаюць сена з радкоў у зьлёгку скручаны радок такім чынам, што дробныя, далікатныя частачкі сена закручваюцца ў сярэдзіну, а сакавітыя сьцяблы знаходяцца зьверху радка. На сонцы грубыя частачкі вельмі хутка прасыхаюць, а дробныя лісточкі ў сярэдзіне таксама правяльваюцца, але і адно і другое прасыхаюць з аднолькавай хуткасьцю і страты ад асыпаньня дробных частачак вельмі нязначныя.

### Нагрузіць трактар і касілку

Уборка сена пачынаецца з першага працэсу касьбы і праходзіць цэлы шэраг розных прац. Якраз касьба зьяўляецца найбольш цяжкай з іх, і ў першую чаргу павінна быць мэханізавана. Калі лічыць сярэдняе супраціўленьне касілак у 85 клгр. на 1 мэтр захвату (ня болей), а магутнасьць трактара (у 10—20 сіл) у 650 клгр. пры 2-й хуткасьці, дык мы атрымаем, што касілкі павінны мець для нагрузкі нават мала магутнага трактара захват у 650 : 85= =7,64 мтр.

Конструкцыі сучасных касілак і сцэпак дазваляюць прычапіць 2—3 касілкі да аднаго трактара або мець захват у агульным да 4,27 мэтраў. Гэта дае супраціўленьне прычэпленых машын у 363 кгр., а трактар будзе загружаны толькі на 55,8 проц. Зразумела, што з павялічэньнем магутнасьці трактара коэфіцыент яго выкарыстаньня значна зьніжаецца, у той час, калі даведзена, што ўсе іншыя палявыя работы больш рацыянальна апрацоўваць трактарамі вялікай магутнасьці. Тут ёсьць, як бачна, некаторая размычка, бо трымаць розныя трактары малой магутнасьці для касьбы і вялікай магутнасьці для іншых палявых прац—зусім немажліва.

Здавалася-б, што выйсьці з такога становішча няпоўнага выкарыстаньня цягавай сілы трактара можна было-б шляхам дадатковай прычэпкі яшчэ некалькі машын, але гэтаму перашкаджае шкоднае дзеяньне бакавых сіл з прычыны неабходнасьці аднабаковай прычэпкі касілак з правага боку.



Калгасьнік т. Бутосаў выяжджае на сяўбу на прымацаваных к яму конях.

У апошнія часы конструктары працуюць вельмі многа над машынамі вялікага захвату, каб можна было больш поўна выкарыстоўваць сілу трактара і зьнішчыць уплыў бакавых сіл.

## Як зграбаць сена

Пасьля некаторай прасушкі скошанай травы, яе ўжо можна зграбці ў радкі лепш за ўсё бакавымі граблямі на добрых ураджайных пожнях, бо пры няўдалай траве яны даюць вельмі малыя радкі. Супраціўленьне бакавых грабель большае, чым у звычайных конных грабель (35 *м* на 1 *м* захвату), але загрузіць трактар таксама ня могуць, а таму досыць у іх пары коняй.

Бакавыя граблі самі па сабе прадстаўляюць барабан пастаўлены пад кутом у напрамку свайго руху наперад у 45 град. На асобных планках-восях гэтага барабану знаходзяцца зубы, а вярчэньне барабану перадаецца ад хадавых калёс праз зубчатую перадачу. Пры сваім вярчэньні барабанныя зубы захопліваюць сена і пасоўваюць яго наперад і ўбок, пакуль яно ня ўложыцца з боку ў выглядзе непарыўнага валка.

Сена, згрэбленае ў валкі, пасьля прасушкі павінна быць падвезена да стагоў або пуняй. Гэтая праца зьяўляецца вельмі нерацыянальнай з боку выкарыстаньня транспартнага інвэнтару пры звычайным спосабе возкі сена вазамі з ручною накладкай, бо ён выкарыстоўваецца самае большае толькі на 15 проц. Таму для лепшага выкарыстаньня транспартных сродкаў і аблягчэньня цяжкай працы па накладаньню сена на вазы— ужываюцца так званыя сенападавальнікі.

Гэта асобныя элеватары, або іншыя прылады, якія прымацоўваюцца да павозкі, падбіраюць з валкоў сена і падаюць яго на воз.

### Сацыялістычная прамысловасьць дасьць калгасам усе ўборачныя машыны

Сенападавальнікі добра ўжываць пры возцы сена ў адлегласьці большай за $^3/_4$ клм. У іншым выпадку час на адцэпку і прыцэпку машыны складае такі вялікі процант у адносінах да карыснай яго працы, што ўжываньне яго робіцца нерэнтабельным. За гэтым яго варта ўжываць пры возцы сена з валкоў на далёкую адлегласьць.

Пры возцы сена на малыя адлегласьці лепш за ўсё ўжываць валакушы, якія становяць сабою пляцформу доўгіх планак або зубоў, нахіленых у рабочым стане да паверхні глебы. Пры хадзе валакушы наперад сена сваім напорам узьбіраецца на пляцформу валакушы да 250 *кг*, пасьля чаго пляцформа асобым рычагом устанаўліваецца гарызантальна і перавозіцца да стогу або пуні. Тут пляцформа ізноў нахіляецца, коні асаджваюць назад і сена скідаецца. Для працы валакушы патрэбна пара коняй і адзін рабочы. Пасьля праходу валакушы неабходна пускаць звычайныя конныя граблі.

Як сенападавальнік, так і валакуша зьяўляецца вялікай прадукцыйнасьцю працы. У залежнасьці ад ураджаю першы можа апрацаваць да 15 *га* за 10 гадзін працы, а валакуша нават да 25 і 35 *га* ў залежнасьці яшчэ і ад адлегласьці паміж радкамі.

Многа працы пры ўборцы сена прыходзіцца затрачваць на скіданьне яго ў стагі, а мы ня маем нават самай простай мэханізацыі гэтага працэсу. За межамі распаўсюджаны досыць розныя сыстэмы самадзельных стогаскідальнікаў, якія падвышаюць працу чалавека ў 3—7 разоў, і фактычна прадстаўляюць сабою вельмі простыя машыны, якія маюць камбінацыі адных і тых-жа дэнгаляй, а менавіта: канатаў, блёкаў і зацэпачных прылад, якіх ёсьць многа розных сыстэм.

Усё вышэйсказанае гаворыць аб тым, што мэханізацыя ўборкі сена зьяўляецца вельмі важным момантам у працы нашых сацыялістычных гаспадарак і павінна праводзіцца самым энэргічным чынам. Пры выкананьні ўзятых нашай сацыялістычнай прамысловасьцю на сябе абавязкаў машынабудаўніцтва для сельскай гаспадаркі мы ў самым хуткім часе зможам і ў пытаньнях мэханізацыі ўборкі сена, ня толькі дагнаць, але і перагнаць капіталістычную тэхніку, бо нашыя вынаходцы ў апошнія часы прадставілі для спробы цэлы шэраг новых машын і для ўборкі сена, і пры тым такіх, якіх яшчэ ня бачылі капіталістычныя краіны.

### Своечасова і поўнасьцю ўбраць сена.

Шырокія колы калгасьнікаў і рабочых саўгасаў павінны самым актыўным чынам выкарыстаць тыя машыны, якія ёсьць у іхнім распараджэньні, для ўборкі сена. Такім чынам мы пераможам недахоп грубых кармоў, які назіраўся мясцамі ў гэтым годзе, не дамо яму быць у далейшым і ў асноўным вырашым кармовае пытаньне.

Аніводнага кілё сена, няпрыбранага з поля, не павінна быць у калгасах і саўгасах!

А. Вечар.

**„Для таго, каб вырашыць задачы падваеньня спажываньня мяса і малака, кармовыя рэсурсы нашай краіны трэба павялічыць у паўтара разы“**

**(Якаўлеў).**

# Павышайце ўраджай насеньня чырвонай канюшыны

Шпаркае разьвіцьцё жывёлагадоўлі, якое адбываецца на аснове саўгасаў і колгасаў, магчыма вырашыць толькі пры правільнай організацыі кармавой базы. Таму зразумела, чаму ў апошні час аддаецца столькі ўвагі палявому травасеяньню.

Палявое травасеяньне ў нас уводзіцца ня толькі для забясьпячэньня жывёлагадоўлі кармамі, але і для павялічэньня ўраджаяў збожжавых культур.

З кожным годам растуць плошчы, занятыя кармавымі травамі. Сярод іх першае месца займае чырвоная канюшына, якая дае ня толькі вялікія ўраджаі добрага сена, але і ўгнойвае глебу. Пасьля канюшыны ў глебе застаецца 179 кілё азоту на гектар. Такую колькасьць азоту мы можам даць глебе ўкладаючы 35½ тон гною на *га*. Але далейшае пашырэньне пасеваў чырвонай канюшыны ня можа ісьці бяз шпаркага павялічэньня насеннаводзтва.

Насеньня канюшыны нам кожны год не хапае, бо ўраджаі атрымліваюцца надзвычайна нізкія. За апошнія чатыры гады сярэдні ўраджай па БССР не дасягае і 2-х цэнтнераў з *га*, а ў леташні, неўраджайны год, былі гаспадаркі, якія ледзь атрымалі ½ цэнтн. з гектару. На Урале-ж чырвоная канюшына дае часта больш 8 цэнтнераў.

Якак-ж прычына такіх нізкіх ураджаяў насеньня чырвонай канюшыны?

Справа ў тым, што чырвоная канюшына належыць да такіх расьлін, якія ня могуць даваць насеньня без апылкаваньня шасьціножкамі, а чырвоную канюшыну запылкоўваюць, амаль выключна, чмялі, якіх колькасьць памяншаецца, дзякуючы распашцы, якой зьнішчаюцца месцы, дзе чмялі будуюць свае гнёзды. З другога боку пасевы насеннай канюшыны павялічваюцца і чмялі ня могуць абслужыць гэтых вялікіх плошчаў. Вось чаму паўстае пытаньне аб спэцыяльных мерах па запылкаваньню чырвонай канюшыны. Так як збожжавыя расьліны для павялічэньня ўраджаяў патрабуюць шэрагу агракультурных мерапрыемстваў, так і насенная канюшына, апрача адпаведнай апрацоўкі глебы і ўгнаеньня патрабуе абавязковага запылкаваньня шасьціножкамі.

Калі-ж мы можам замяніць чмялёў, якія зараз ужо ня могуць здавальняюча абслугоўваць узрослых плошчаў насеннай канюшыны?

Такімі шасьціножкамі зьяўляюцца пчолы. Звычайна пчолы рэдка наведваюць чырвоную канюшыну, бо ім цяжка даставаць салодкі сок (нектар) з канюшынных кветак, але досьледамі розных сельска-гаспадарчых станцый устаноўлена, што пры адпаведных умовах пчолы ідуць на канюшыну і павялічваюць яе ўраджай. Так, на Шацілаўскай сельска-гаспадарчай дасьледчай станцыі канюшына бяз пчол давала ўраджай усяго толькі 75 кілё на гектар, а з пчоламі 190 кілё. Мы бачым, што пчолы павялічылі ўраджай на 115 кілегр., ці ў два з паловай разы. Калі лічыць кошт кілёграма канюшыннага насеньня 1 рубель, то выходзіць, што пчолы павялічылі даход аднаго гектару на 115 рублёў, ня ўлічваючы мёду, які сабралі пчолы з канюшыны.

Бязумоўна, пры спрыяючых умовах ураджай можа быць павялічаны яшчэ больш.

Адзін з буйнейшых спэцыялістаў па чырвонай канюшыне праф. Лісіцін піша, што: „*Самай галоўнай умовай посьпеху (канюшыннага насеннаводзтва—М. Д.) зьяўляецца запылкаваньне пчоламі. Канюшыннае насеннаводзтва бяз пчол ісьці ня можа. Бяз пчол мы хутка ня будзем атрымліваць насеньня канюшыны, Гэта трэба добра запамятаваць*“.

Вось чаму кожны калгас, які мае пчол, павінен выкарыстаць іх для запылкаваньня насеннай канюшыны.

Але не заўсёды пчолы ахвотна ідуць на чырвоную канюшыну, бо трубачка вяночка канюшыны даўжэй кароткага хабатка пчол і апошнім цяжка даставаць адтуль салодкі сок. Калі-ж канюшы-

на ў дадзенай мясцовасьці цьвіце ў такі час, калі навокал няма іншых меданосаў, то пчолы ахвотна ідуць на канюшыну і, бяручы з яе нектор і пылок, запылкоўваюць яе, а значыцца павышаюць ураджай насеньня. Калі-ж адначасова з чырвонай канюшынай будуць цьвісьці такія меданосныя, як белая ці швэцкая канюшына, гарчыца, грэчка, сэрадэла, ліпа, рапс і інш., то пчолы паляцяць на гэтыя меданосы, а не на чырвоную канюшыну. Таму цьвіценьне чырвонай канюшыны трэба прыстасоўваць да такога часу, калі ўжо адцьвітуць галоўныя меданосы—ліпа, грэчка і інш. Вось чаму выгадней пакідаць на насеньне атаву двухукоснай канюшыны, апроч таго на ёй будзе больш чмялёў, бо колькасьць іх да канца лета павялічваецца. Але часта, дзякуючы дажлівай восені насенную канюшыну (з атавы) не ўдаецца сабраць, таму трэба рабіць так, каб цьвіценьне яе ня вельмі зацягвалася, для гэтага тую частку канюшыны, атава якой будзе пакінута на насеньне, трэба скасіць у *першую чаргу* і лепш усяго тады, калі яна толькі пачынае цьвісьці. Падкашваць можна толькі двухукосную (раньнясьпелую) канюшыну, а аднаўкосную (лазоўку) нельга, бо яна дрэнна адрасьце і дасьць дрэнны ўраджай.

Да часу цьвіценьня насеннай канюшыны павінна быць скошана ўся канюшына, якая ня будзе пакінута на насеньне, а таксама ўсе лугі, калі на межах і краёх лесу побач з канюшынным і насеньнікамі, растуць сьмяцьцёвыя меданосы, то і яны павінны быць выкашаны. Што гэта зьяўляецца надзвычайна важным, сьведчыць выпадак, які быў на Шацілаўскай сельска-гаспадарчай дасьледчай станцыі, аб якім піша праф. Лісіцын. У іхняй гаспадарцы „Махавое" было 64 *га* канюшыны, калі пачала яна цьвісьці, то пчол на ёй зусім ня было. Ужо наступіла поўнае цьвіценьне, а пчолы на канюшыну ня ішлі, бо ў гэты час яны працавалі на цьвятучым лузе. Аддалі загад скасіць луг і на трэці-ж дзень, калі завяла скошаная трава, усе пчолы кінуліся на канюшыну і працавалі на ёй у вялікай колькасьці.

Для запылкаваньня 1 *га* канюшыны патрабуецца 3—4 сям'і пчол. З гэтага разьліку, лепш усяго, пчол ставіць пасярэдзіне канюшыннага поля. Пры перавозцы пчол на адлегласьці бліжэй трох кілёмэтраў ад пчольніка, неабходна ведаць, што ўся лётная пчала можа зьвярнуцца на старое месца і згубіцца, калі ня прыняць адпаведных мер супроць гэтага. Для таго, каб гэтага ня здарылася, трэба ноччу пасьля перавозкі паставіць перад ляткамі шчыты з дошак, адным канцом на дах вульля, а другім на зямлю, з такім разьлікам, каб на бакох шчытоў быў вольны праход для пчол (дошкі можна замяніць яловымі лапкамі і інш.) Перавозка пчол зьяўляецца даволі складанай, таму ня маючы мажлівасьці ў гэтым кароткім артыкуле даць адпаведную інструкцыю, дасылаем да спэцыяльнай, тэхнічнай інструкцыі, якая разаслана Калгаснасеннаводсаюзам.

Апроч салодкага соку пчолы бяруць яшчэ з канюшыны пылок, а таму можна даглядаць пчол так, каб ім патрабавалася вельмі многа пылку, для гэтага трэба, каб у вульлёх было ў гэты час шмат дзяцей.

Ня трэба забываць і аб нашых дармовых працаўнікох—чмялёх, бо ад іх таксама ў значнай ступені залежыць ураджай, а не разбураць іх гнёзды, якія знаходзяць у час пакосу.

**М. Дабратворскі.**

**Ад рэдакцыі**: Катэдра Заолёгіі Беларускай Акадэміі Навук у гэтым годзе будзе праводзіць дасьледчую працу па вывучэньні запылкаваньня насеннай канюшыны пчоламі, таму вельмі пажадана, каб тыя калгасы, у якіх будзе праведзена запылкаваньне канюшыны пчоламі, паведамілі аб выніках гэтай працы па адрасу: **г. Менск**, Беларуская Акадэмія Навук, катэдра заолёгіі. Гэтыя паведамленьні можна пасылаць па пошце дарэмна.

---

## Уход за пасевамі і ўборка ўраджаю — важнейшая гаспадарча-палітычная задача.

# Догляд за кармовымі кораньплодамі на высадкі

Пад кораньплодамі на высадкі глеба павінна быць увесь час пухкай і чыстай ад пустазельля.

Пасьля зьяўленьня ўсходаў, калі выразна вызначацца радкі, трэба зараз-жа рабіць пульхненьне глебы ў міжрадзьдзях. Гэтую работу трэба правесьці як мага хутчэй, ужываючы для гэтай мэты конныя культыватары, у якіх адвінчваюць зуб'я з такім разьлікам, каб застаўшыяся ішлі паміж радзьдзямі і поўнасьцю іх ахоплівалі. Вельмі добра для пульхненьня міжрадзьдзяў скарыстоўваць ручныя палольнікі „Планет“, прычапляючы іх па 5 штук да аднаго ворчыка. Робіцца гэта наступным чынам: вырабляюць драўляны чатырохгранны ворчык таўшчынёй 8×10 сант., а даўжынёй у залежнасьці ад шырыні міжрадзьдзяў, напрыклад, пры шырыні міжрадзьдзяў у 60 сантымэтраў даўжыня ворчыка будзе 5 сантымэтраў міжр. × 60 = 3 мэтр.

Пасьля першага пульхненьня, праз 8—10 дзён трэба рабіць зноў больш глыбокае пульхненьне міжрадзьдзяў, а ў радкох выпалваюць пустазельле.

Наступнай чарговай работай па догляду за кораньплодамі будзе прарыўка ўсходаў. Пазьніцца з прарыўкай нельга, бо пры густым стаяньні ў радкох усходаў, яны выцягваюцца і слабеюць. Буракі прарываюць у той момант, калі яны разгорнуць 3—4 сапраўдных лісты, моркаў 1—2 лісты, турнэпс 2—3 лісты. Калі на ўсходах зьявіліся шкоднікі, дык прарыўку прыходзіцца адкласьці да зьнішчэньня шкоднікаў, таму што, калі зрабіць прарыўку, дык шкоднікі могуць зусім зьнішчыць расьліны, якія засталіся.

Прарыўку каліўяў кораньплодаў на высадкі трэба рабіць у адзін прыём. У морквы магчыма застаўляць гнёзды па 3—4 калівы і потым пры праверцы вырваць лішнія калівы, пакінуўшы адзін лепш разьвіты экзэмпляр. Прарыўку на высадкі рабіць на такой адлегласьці, каб атрымаць сярэдняй велічыні кораньплоды, якія зьяўляюцца найбольш выгаднымі для вырашчваньня насеньня. Насеньне з сярэдняй велічыні кораньплодаў абыходзіцца значна таней, бо высадак з аднаго гектару атрымоўваецца большая колькасьць і на будучы год імі магчыма заняць большую плошчу. Для захаваньня на зіму яны патрабуюць менш месца і значна лепш захоўваюцца, чым буйныя высадкі. Акрамя таго яны больш трывалыя ў адносінах засухі.

Па меры таго, як поле пад кораньплодамі зарастае пустазельлем і глеба робіцца шчыльнай, або ствараецца скарынка, неабходна палоць і пульхніць глебу. Перад тым, як бацьвіньне пачне закрываць міжрадзьдзе, робяць праверку, г. зн. канчатковую прарыўку, пры якой вырываюцца пазьней зьявіўшыяся ўсходы на праполатых мясцох і адначасова з гэтым поляць і пульхняць глебу ў міжрадзьдзях.

Міжрадная апрацоўка глебы спыняецца тады, калі бацьвіньне кораньплодаў пачне змыкацца і закрываць міжрадзьдзе. Увесь час росту кораньплодаў трэба сачыць за зьяўленьнем шкоднікаў і сваячасова прымаць меры барацьбы з імі. У нашых умовах усходам буракоў, турнэпса, бручкі шкодзіць земляная скочка. Галоўным чынам земляная скочка прыносіць вялікую шкоду ўсходам у першы момант іх разьвіцьця. Як меру барацьбы з земляной скочкай магчыма ўказаць на наступныя: сваячасовы засеў, добрая падрыхтоўка глебы і догляд; трэба ствараць кораньплодам лепшыя ўмовы росту і даць ім магчымасьць хутка разьвівацца. Апырскваньне ўсходаў парыскай зелянінай. Раніцай па расе абсыпка ўсходаў табачным пылам на палову з гашанай вапнай.

У некаторыя гады ўсходам кораньплодаў шкодзіць рабак лугавога матыля. Лепшай мерай барацьбы з лугавым матылём—гэта апырскваньне ўсходаў парыскай зелянінай. Для апырскваньня—на 12 літраў вады бяруць 13 грам парыскай зеляніны, 26 грам сьвежагашанай вапны, 34 гр. зялёнага або звычайнага мыла, каб раствор лепш прыліпаў да расьлін дабаўляюць 1 шклянку мучнога клейстару.



На сходзе калгасьнікаў абгаворваюць нормы выпрацоўкі (калгас Энгельса, Уваравіцкі раён).

З таго боку, адкуль ідзе рабак лугавога матыля, на полі з кораньплодамі выкапваюць лугавыя канаўкі глыбінёй у 20—25 сантымэтраў з адвеснымі сьценкамі. На дне канаўкі робяць калодцы. Пападаючы ў канаўку, рабак паўзе па яе дну і пападае ў калодзезь, дзе яны і гінуць.

У паўднёвых раёнах бураком можа шкодзіць бураковы даўганосік. Меры барацьбы з ім гэта—апырскваньне ўсходаў парыскай зелянінай, хлорыстым барыем, лоўчыя канаўкі.

**В. Чэмелаў.**

## Барацьба за кожны кілёграм масла і малака—задача кожнага калгасьніка і калгасьніцы.

# СЬВІНЬНЯ ПАТРАБУЕ

# добрых кармоў і догляду за сабой

## АРГАНІЗУЙЦЕ ПАШЫ ДЛЯ СЬВІНЕЙ

Пашы даюць танныя зялёныя сакавітыя кармы і зьяўляюцца магутным сродкам для ўмацаваньня здароўя сьвіней.

Акрамя гэтага пашы даюць магчымасьць значна зьменшыць выдаткі моцных кармоў. Пашы ўтаняюць гадоўлю сьвіней на 35—40 проц. Так па дадзеных амэрыканскіх дасьледчых станцый 1 *га* пашы дае на 600 руб. сьвініны.

Пашы вельмі каштоўны для сьвіней усіх узростаў. Асаблівую каштоўнасьць яны прадстаўляюць для парасят таму, што даюць корм багаты вітамінамі і мінэральнай матэрыяй, у якіх маладняк адчувае вялікую патрэбу для свайго росту.

**Галоўнейшыя культуры для пашаў**

*Віка-аўсяная мяшанка.* У 1931 годзе найбольш распаўсюджанай і падыходзячай культурай для закладкі пашаў будзе віка-аўсяная, ці віка-гарохавая мяшанка. Калі пасеяць гэтую мяшанку, то пры спрыяючым надвор'і праз 35—40 дзён яна ўжо прыгодна для пасьбы. Скармліваньне магчыма пачынаць, калі расьліны дасягнуць вышыні 20—25 сантымэтраў. Пераросшую віка-аўсяную мяшанку сьвіньні паядаюць неахвотна, таму скармліваньне яе патрэбна скончыць да таго часу, калі не завязаліся яшчэ стручкі.

Мяшанка дрэнна адрастае пасьля страўліваньня яе на корані. Пагэтаму віка-аўсяную і віка-гарохавую мяшанку неабходна скармліваць у скошаным выглядзе, як дадатковы корм, напрыклад, да скудных натуральных пашаў.

*Канюшына чырвоная*—каштоўная паша для сьвіней. Пасьбу на канюшыне магчыма пачынаць з таго часу, калі расьліны адрастаюць на 17—20 сант. ад зямлі. Канюшына з вялікай прымесьсю цімафейкі пад пашы сьвіней мала прыгодна, таму што цімафейка вельмі шпарка адрастае і грубее. У такім становішчы сьвіньні яе зусім не паядаюць.

На канюшыне, засеву 1931 г. пры ўмове, калі яна добра адрасьце і пры добрым надвор'і, увосень можна дапусьціць пасьбу сьвіней, пры гэтым неабходна сачыць за тым, каб сьвіньні ня рылі гэтых пашаў. Каб пазьбегнуць вытаптваньня канюшыны—у сырое дажджлівае надвор'е пасьбу сьвіней на канюшыне пасеву 1931 г. лепш не дапушчаць. У тых сьвінаводных саўгасах і калгасных фэрмах, дзе плошчы пад канюшынай нязначныя, лепшыя вучасткі павінны быць выкарыстаны ў бягучым годзе не для пашы, а для ўборкі на сена з такім разьлікам, каб поўнасьцю забясьпечыць сьвіное стада на зіму 1931-32 году добрым сенам бабовых.

*Люцэрна*—вельмі каштоўная паша для парасят. На люцэрне пасьбу сьвіней магчыма пачынаць, калі яна адрасьце на 17—20 сант., каб сьвіньня не аб'ядала яе да караня, таму што гэта выклікае зьмяншэньне пашы і нават можа зрабіць яе няпрыгоднай для далейшага карыстаньня. Зусім не дапушчаецца пасьба сьвіней увосень на люцэрніках, закладзеных вясной 1931 году.

*Азімае жыта.* Пасеў азімага жыта раньняй вясной дае добрыя пашы для сьвіней. Таксама ў тых выпадках, калі немагчыма арганізаваць восеньскія пашы за рахунак інш. культур у сярэдзіне і ў канцы лета, магчыма вытвараць спэцыяльны раньні пасеў азімага жыта для скарыстаньня яго ўвосень 1931 году ў якасьці позьняй восенскай пашы. Для гэтае мэты павінна быць выкарыстана зярно 2-га гатунку і норма высеву павялічана арыентыровачна на 20—25 проц.

Акрамя пералічаных вышэй найбольш распаўсюджаных культур, магчыма ствараць пашы для сьвіней за рахунак вы-

Сьвіньні на пашы

(Саўгас „Малая Сьляпянка“ Менскі раён).



севу мяшанкі аўсу і ячменю, сэрадэлі, пялюшкі танінабура (зямляная груша), доньніка і інш.

### Скарыстаньне пашаў

Пасьба сьвіней на асобных відах пашы павінна весьціся з такім разьлікам, каб па скарыстаньні адных пашаў сьвіньні змаглі быць перакінуты на іншыя. У бягучым годзе для самай раньняй пасьбы сьвіней сьвінаводнымі саўгасамі і калгасамі павінны быць выкарыстаны натутуральныя пашы (зарасьнікі, сухадольныя сенажаці, узьбярэжжы рэк і інш.).

Пачынаючы з другой паловы чэрвеня ўжо магчыма пасьвіць сьвіней на штучных пашах.

### Разьлік пашаў

На адным гектары сярэдняй штучнай пашы магчыма забясьпечыць зялёнай масай на працягу 100 дзён 25 падсьвінкаў з сярэдняй гадавой жывой вагай 30—40 кілёграм, г. зн. адзін *га* пашы дае 2.500 кармавых галавадзён для падсьвінкаў паказанай жывой вагі. Для дарослых сьвіней і супаросных матак нагрузка на 1 *га* пашы павінна быць зьніжана ў $1^{1}/_{2}$—2 разы ў залежнасьці ад жывой вагі матак.

На адным *га* пашы сярэдняй якасьці магчыма прапасьвіць 10 галоў падсосных матак, разам з парасятамі да ад‘ёму. Выходзячы з вышэй прыведзеных лічбаў і маючы склад стада, які ў летні час будзе ўтрымоўвацца на пашах, вельмі проста падлічыць агульную плошчу, патрэбную для пашы ў розныя пэрыяды сэзону.

Для ўстанаўленьня агульнай патрэбнасьці ў плошчы пад пашай, неабходна весьці падлік у такім-жа напрамку. Пры гэтым лепш мець некаторы лішак пашы, чым недахоп яе, таму што лішнюю зялёную масу заўсёды магчыма выкарыстаць на сена, альбо на сілос.

### Падрыхтоўка сьвіней да пашы

У сувязі з рознымі запатрабаваньнямі асобных узростаў і груп сьвіней у падрыхтоўцы да пашы, сьвіное стада неабходна разьбіць на наступныя групы:

1) маткі з парасятамі да ад‘ёму ў асобным стадзе на 25—30 матак. Прычым гэтае стада трэба групіраваць так, каб маткі з парасятамі ва ўзросьце 3—4 тыдняў былі ў адным табуне, а маткі з парасятамі старэй 3—4 тыдняў і да ад‘ёму—у другім.

2) Маткі супаросныя ў апошні пэрыяд супароснасьці (за 1 месяц да апаросу) да 100 галоў;

3) маткі дарослыя застылыя і супаросныя да пачатку 4 месяцу супароснасьці да 300 галоў;

4) маткі маладыя, халастыя да 500 галоў;

5) парасяты да ад‘ёму і старэй да 500 галоў.

Пры вырасьліваньні ў саўгасах і калгасных фэрмах храчкоў маладняка, пачынаючы з 4-х месячнага ўзросту разь-

біваецца на дзьве групы: на храчкоў і сьвінак.

Прыведзеныя памеры груп зьяўляюцца арыентыровачнымі. Кожная сьвінаводная гаспадарка павінна ўдасканаліць іх у залежнасьці ад умоў пасьбы, наяўнасьці пагало'яў і іншых гаспадарчых умоў саўгасу і калгасу, пры гэтым павінна быць забясьпечана найбольш спакойная пасьба і ўтрыманьне сьвіней. Для папярэджваньня выкідышаў асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на спакойнае ўтрыманьне і пасьбу супаросных матак у апошні месяц супароснасьці. Да пачатку пасьбы неабходна таксама вытварыць дэталёвы агляд усяго стада, абрэзаць і падчысьціць сьвіньням капыты.

### Парадак выпасу

Парадак выпасу павінен быць дэталёва прапрацаваны ў кожным саўгасе і калгасе, улічыўшы ўсе мясцовыя ўмовы. Пры ўстанаўленьні яго неабходна кіравацца наступнымі правіламі:

Перагон сьвіней ад месца іх стаянкі да пашы не павінен перавышаць: а) для матак супіаросных у апошні пэрыяд цяжарнасьц—0,5 *км.*, б) для матак падсосных з парасятамі—0,5 *км*, в) для матак халастых і супаросных для пачатку апошняга месяцу супароснасьці—1-1 5 *км.*, г) для вытворніка—1-1,5 *км.*, д) для маладняка, які гадуецца ці стаіць на адкорме—2-2,5 *км.*

Пры выкарыстаньні пашаў неабходна забясьпечыць поўнае паяданьне жывёлай зялёнага корму на пашы. Таму сьвіньні павінны выганяцца на пашу без папярэдняй падкормкі іх моцнымі кармамі. На пашы сьвіньні застаюцца да таго часу, пакуль яны з ахвотай паядаюць траву. Праз 1—1¹/₂ гадзіны сьвіньні на пашы ўжо наядаюцца і пачынаюць лажыцца і рыць зямлю. У гэты час іх неабходна, як правіла, загнаць на месца стаянкі для адпачынку, на 3—4 гадзіны, а ў сьпёку і на больш доўгі час.

Пасьбу сьвіней у летні час лепш праводзіць з ранку і пад вечар. Увосень і ўлетку ў дрэннае надвор'е, калі з ранку бывае нізкая тэмпэратура з халодным паветрам і халодная раса на траве, падсосных матак з парасятамі магчыма пускаць на пашу толькі ў больш цёплыя часы дня. У гэтых выпадках павінна быць забясьпечана скармліваньне ў станках зялёнага корму ў скошаным выглядзе. Пасьля дажджу, пакуль зямля не прасохла, сьвіней таксама на пашы выганяць не патрэбна, таму што сырая паша вельмі моцна ўтаптваецца і псуецца.

### Падкормка сьвіней на пашы

Падкормку сьвіней на пашы моцнымі кармамі неабходна вытвараць у залежнасьці ад узросту—адзін—два разы ў дзень. Падкормка праводзіцца ў час адпачынку сьвіней, пасьля ня менш



Маткі з парасятамі (Саўгас „Малая Сьляпянка", Менскі раён).

1½ гадзін пасьля прыгону сьвіней на адпачынак.

Маладняк і падсосных матак падкармліваюць 2 разы, супаросных і халастых адзін раз. Пашы дробнай якасьці ў асноўным задавальняюць сьвіней падтрымліваючым кормам. У сувязі з гэтым парасяты, маладыя сьвіньні, падсосныя і супаросныя маткі і кныры - вытворнікі, акрамя карыстаньня пашы—падкармліваюцца ў станках. За скарыстаньнем сьвіньнямі пашы і падкормкай іх моцнымі кармамі павінен быць устаноўлен сталы нагляд. Калі пры ўстаноўленай падкормцы сьвіньні пачынаюць збаўляць у вазе, то дачу моцных кармоў неабходна павялічыць. І, наадварот, калі будзе ўстаноўлена, што сьвіньні прыходзяць на пашу сытымі і неахвотна паядаюць зялёны корм, то дача моцных кармоў ім павінна быць зьменшана да памераў, якія-б забясьпечылі ахвотнае паяданьне зялёнага корму і поўнае скарыстаньне пашы.

Сьвіней на пашы неабходна таксама забясьпечыць мінэральнай матэрыяй. Дзеля гэтага магчыма выкарыстаць размолатую вапну, мел, ці касьцяную муку, залу, тоўчаны вугаль і соль. Мінэральныя матэрыі павінны давацца сьвіньням з самакармушак на самай пашы ці ў загоне. Сьвіньні павінны мець вольны доступ да самакармушкі і паядаюць мінэральныя матэрыі ў ахвоту. Зоотэхнічная практыка рэкамандуе наступную мінэральную мяшанку: касьцяной мукі—40 частак, мелу ці гашанай вапны—40 частак і паваранай солі—20 частак.

*Вада.* У час пасьбы сьвіньні павінны быць забясьпечаны ў ахвоту чыстай, сьвежай вадой, таму што патрэба сьвіней ў вадзе ў час пасьбы вельмі вялікая. Лепш за ўсё калі месца адпачынку сьвіней будзе знаходзіцца ў непасрэднай блізасьці да вады (натуральныя вадаёмы; рэкі, калодзезі) і абсталявана прасьцейшымі самапаілкамі.

У выпадку неабходнасьці ганяць сьвіней да вадапою, перагон да месца вадапою не павінен быць больш аднаго, двух *км*. Маткі падсосныя з парасятамі павінны быць забясьпечаны вадою на месцы іх стаянкі.

**Абсталяваньне стаянак сьвіней на пашы**

Для адпачынку і начоўкі сьвіней і для ўкрыцьця іх ад сонца і дажджу на пашах павінны быць пабудаваны спэцыяльныя загоны для групавога ўтрыманьня сьвіней, а таксама яны павінны быць абсталяваны прасьцейшымі навесамі. Для падсосных матак магчыма пабудаваць перасовачныя домікі, альбо навесы з асобнымі пераноснымі сьценкамі.

Для пасьбы сьвіней і ўхода за імі на пашы павінен быць вылучан спэцыяльны пэрсанал з вопытных сьвінароў. Пастухі і сьвінары павінны быць прымацованы да асобных груп сьвіней і добра праінструктаваны зоотэхнічным вэтэрынарным пэрсаналам. З імі павінна быць праведзена належная прапрацоўка асноўных пытаньняў тэхнікі пасьбы і карменьня і ўтрыманьня сьвіней на пашы.

Ж—ч.

---

# Селькоры!

## Пішэце ў часопіс, як калгасы рыхтуюцца да ўборкі ўраджаю.

---

# Разьлікі кармавой плошчы для сьвінаводных калгасаў

*(На прыкладах калектыўнай гаспадаркі „Пралетарская № 1“, Касьцюковіцкага раёну).*

Прамысловасьць сьвінаводных гаспадарак для вытворчасьці сьвіньні павінна мець вялікія колькасьці кармоў. Апошнія для сьвінаводных фабрык зьяўляюцца тым неабходным сырцом, з якога і будзе вытварацца прадукт. З гэтага выцякае тое, што для сьвінаводных фабрык у першую чаргу трэба арганізаваць кармавую базу, каб гэтым самым забясьпечыць выкананьне плянавых заданьняў.

Застановімся тут на прыкладных разьліках неабходнай кармавой плошчы. Возьмем для гэтай мэты канкрэтную сьвінаводную гаспадарку, з дадзеным ёй плянавым заданьнем і пэўнай зямельнай тэрыторыяй і насельніцтвам.

Калгас „Пралетарская № 1“, Касьцюковіцкага раёну мае ў карыстаньні 1.151 *га* зямлі, з якой 774 *га* пахаці, (64,7 проц.), сенажацяй заліўных і сухадольных 125 *га*, балотных 30 *га*, выганаў—16 *га*, усяго 171 *га* (14,9 проц.) саду, 13 *га*, гароду—23 *га*, (3,1 проц.), хмызьнякоў 200 *га* (17,3 проц.). У гаспадарцы налічваецца 205 чалавек працаздольных, з іх: мужчын—75, жанч.—130, падлеткаў ад 12—16 год—63, дзяцей да 12 год—259, непрацаздольных—12, усяго 539 чал. Гаспадарка ў сакавіку месяцы з прадукцыйнай жывёлы мела сьвіней у ліку 144 галоў, з іх: кныроў 3, матак—51, парасят аднаго месячн. узросту —48, 2-х месячнага—10, 3-х месячнага—12, 7-мі месячнага—4 і ў адкорме 16 шт. дарослых сьвіней. Стада буйнае рагатае жывёлы складалася: з 3-х бугаёў-вытворцаў, 140 кароў, 13 галоў маладняку ад 2—3 год, 26 галоў маладняка ад 1—2 год, цялят—83 шт., а ўсяго 265 галоў. Рабочых коняй налічвалася 74 галавы і 2 галавы маладняку. Мелася стада авец: 171 штука дарослых і 140 штук маладняку.

Калгас мае вытворчае заданьне арганізаваць стада сьвіней у колькасьці 200 сьвінаматак. Буйная рагатая жывёла будзе адыгрываць другарадную ролю, як галіна абслугоўваючая сьвінаводзтва і забясьпечваючая патрэбы насельніцтва калгасу. Рабочая жывёла бярэцца ў колькасьці да поўнага забясьпечаньня ўсіх работ у гаспадарцы.

Пры ўтварэньні разьліку па арганізацыі кармавой плошчы паўстаюць наступныя пытаньні: 1) Разьвядзеньне стада сьвіней, 2) устанаўленьне кармавых рацыёнаў, 3) падлік усіх патрэб у кармох для жывёлы і насельніцтва, 4) рацыянальнае скарыстаньне прыроднай кармовай плошчы: сенажацяй і выпасаў, 5) падлік патрэбнай плошчы для арганізацыі палявога кармаздабываньня і ўстанаўленьня прыкладнай схэмы севазвароту для сьвінаводнай гаспадаркі.

Для аблягчэньня сталых разьлікаў у гаспадарцы неабходна весьці каляндар злучак і апаросаў. Рабіць гэта патрэбна для таго, каб рэгуляваць апаросы і ведаць у кожным месяцы лік паросных і ідучых у злучку матак.

Рацыянальным разьмяшчэньнем апаросаў трэба лічыць такое, пры якім парасяты будуць знаходзіцца на пашы найбольшы час. Тлумачыцца гэта тым, што ўтрыманьне парасят на пашы каштуе таней, а самі парасяты адчуваюць і выглядаюць куды лепш тых, якія ўзрашчваюцца ў стойле.

Для спэцыялізаваных сьвінаводных калгасаў магчыма лічыць, што ад кожнай маткі будзе парасіцца каля 6 штук парасят вясною і 5 штук увосені. Прыняўшы, што ў гаду пароcяцца 90 проц. матак, атрымаем ад аднэй сьвінаматкі ў год каля 9 штук парасят. Такім чынам у калгасе „Пралетарскі № 1“, пры вытворчым заданьні ў 200 сьвінаматак і нармальным разгортваньні гаспадаркі стада сьвіней будзе складацца з 6 кныроў, 200 сьвінаматак, 360 парасят да 2-х мес., 180 парасят ва ўзросьце ад 2-х да 4-х месяцаў, 180 адкормачнікаў ад 4 да 6 месяцаў і 180 ад 6 да 8 мес. Столькі-ж прыкладна сьвіней будзе ў гаспадарцы і



**Перадача трактараў другой зьмене (калгас імя Дзяржынскага, Буда-Кашалёўскі раён).**

ў зімовы пэрыяд. Сярэдні склад стада па пэрыядам лепш усяго знайсьці шляхам вылічэньня галоў-дзён для харчаваньня па кожнай узрослай групе. Падзяліўшы лік галоў-дзён на колькасьць дзён у пэрыядзе, атрымаем сярэдні лік галоў данага ўзросту. Напрыклад, колькасьць галоў-дзён па ўсіх месяцох пасьбішчнага пэрыяду адкормачнікаў ва ўзросьце да 4—6 месяцаў—2.700, а лік дзён пасьбішчнага пэрыяду 150, значыцца сярэдні склад гэтай групы 27 тысяч падзяліць на 160 будзе 180 галоў.

Далей неабходна ўстанавіць тып адкормаў і ў залежнасьці ад гэтага кармавыя рацыёны для сьвіней паасобных узростаў. Для данай гаспадаркі тып адкорму абраны мясны з працягам адкорма падсьвінкаў ва ўзросьце ад 4 да 8 мес. Кармавыя рацыёны складзены арыентуючыся на максымальнай дачы сакавітых кармоў у выглядзе пасьбішча летам, бульбы і караньплодаў зімой. (Глядзі табліцу кармавыя рацыёны для сьвіней).

На падставе наліччa стада сьвіней, колькасьці дзён у кожным пэрыядзе і кармавых рацыёнаў, вылічваем патрэбу сьвінога стада ў кармох. Апошніх патрабуецца мець на год у наступнай колькасьці: жыта—156 цэнтн. у летні пэрыяд і 130,7 цэнтн. у зімовы пэрыяд, аўсу—706 цэнтн. у летні пэрыяд і 979 цэнтн. у зімовы пэрыяд, ячменю—503 цэнтн. у

летні і 571 цэнтн. у зімовы, вікі—131,8 цн. у летні і 198 цэнтн. у зімовы пэрыяд, бульбы—730 цэнтн. у летні і 7063,4 цнт. у зімовы пэрыяд, кораньплодаў—861 для зімовага пэрыяду, сена — 548 цэнтн. і травы для пасьбішчнага пэрыяду—7.163,6 цэнтн. Для парасят патрабуецца даць цэльнага малака—43,2 цэнтнера ў летні пэрыяд і 63 цэнтн. у зімовы пэрыяд, зьнятага—240,3 цэнтн. у летні пэрыяд і 364,8 цэнтн. у зімовы пэрыяд.

Другой часткай работы павінна зьявіцца выяўленьне памераў стада буйнае рагатае жывёлы. Спэцыялізаваная сьвінаводная калякгыўная гаспадарка павінна трымаць столькі кароў, каб забясьпечыць патрэбы ў малаку цялят і парасят, а таксама і саміх калгасьнікаў.

Прыняўшы норму для калгасьнікаў 1,8 цэнтн. малака на кожнага чалавека, атрымаем, што ўсяму насельніцтву патрабуецца 1,8×539=970 цэнтн. Сьвіньням згодна ўзятага рацыёну для парасят патрабуецца 711 цэнтн., а ўсяго—1681 цэнтн. Пры карма ых дачах каровам 6 клгр. кармавых адзінак, з якіх 3 на падтрымліваючы корм і 3 на прадукцыйны. Зможам атрымаць каля 7 літраў малака ад каровы ў сярэднім, а ўсяго ў год каля 210 цэнтн. Пры гэтых умовах нам патрабуецца мець 1681 : 210=80 кароў. У гэты-ж лік трэба аднесьці і малако, якое патрабуецца для ўзгадаваньня 10 цялят на племя і 70 штук цялят да іх выбракоўкі з гаспадаркі. Кожнаму цяляці, застаўленаму на племя, трэба 3,2 цэнтн., а для выбракоўваемых патрабуецца 1,7 цэнтн., а ўсяго для цялят патрабуецца 151 цэнтн.

Вылічваем далей кармовыя запатрабаваньні стада буйнай рагатай жывёлы ў ліку 80 галоў з адпаведнай колькасьцю маладняка. Для гэтай мэты патрабуецца мець наступную колькасьць кармоў на год: сена 1.277 цэнтн., аўсу—426 цэнтн. бульбы — 558 цэнтн., кораньплодаў—1.382 цэнтн., сілосу—938 цэнтн. і траў 4.250 цэнтн.

Трэцяя частка работы будзе выяўленьне патрэбнай колькасьці рабочых коняй для гаспадаркі і вылічэньне іх патрэб у кармох. Прыняўшы пад увагу характары глебы і практыку мінулых гадоў пры сярэдняй нагрузцы 9 *га* на аднаго каня, вызначаем лік рабочых коняй у 80 галоў і 8 галоў маладняку для рамонту. Для харчаваньня рабочых коняй патрабуецца мець 502 цэнтн. аўса, 2.154,3 цн. сена і 3.654 цэнтн. траў у летні пэрыяд.

Насельніцтву калгаса на яго харчаваньне патрабуецца мець: збожжавых хлябоў—1.105 цэнтн., бульбы і кораньплодаў—1.277 цэнтн., выходзячы, што на кожнага чалавека збожжавых хлябоў патрэбна 2,05 цэнтн. і бульбы 2,37 цэнтн.

Да гэтага трэба дадаць яшчэ фураж, патрэбны для харчаваньня сьвіней саміх калгасьнікаў. Прымем, што для гэтай мэты ў гаспадарках членаў будзе па аднай дарослай сьвіньні і па аднаму парасяці для замены. Лічучы насельніцтва калгасу ў 100 сямей, атрымаем, што для гэтай мэты патрабуецца мець 100 дарослых і 100 падсьвінкаў. Для іх харчаваньня патрабуецца 2.850 цэнтн. бульбы дарослым, падсьвінкам 1.150 цэнтн., а ўсяго 4.000 цэнтн. Астатнія кармы будуць здабыты самімі калгасьнікамі, з неабагуленых гародаў і са сваіх лішкаў кармоў.

Стада авец калгасу будзе харчавацца летам на бросавых землях, ці хмызьняках, а зімою на грубых саломістых кармах невялікай колькасьці сена ў кармовым рацыёне.

Такім чынам для сьвінаводнай гаспадаркі патрабуецца мець наступныя колькасьці кармоў:

Вырашаем далей пытаньне аб скарыстаньні прыродных сенажацяй і выганаў па колькі іх магчыма выкарыстоўваць для пашы для атрыманьня сена. Балотная сенажаць да інтэнсыўнай яе асушкі будзе выкарыстоўвацца, як сенажаць пры сярэдніх ураджаях 10 цэнтнераў з 1 *га*, атрымаем 10 × 30 будзе 300 цэнтнераў сена. Выкарыстоўваючы выганы як пашы для буйнай рагатай жывёлы пры сярэднім зборы з іх травы ў ліку 75 цэнтнераў з 1 *га* атрымоўваем ураджай травы 16 × 75 будзе 1.200 цэнтнераў. Да поўнага забесьпячэньня зялёнымі кармамі буйнае рагатае жывёлы і рабочых коняй у летні пэрыяд патрабуецца 6.705 цэнтнеры травы. Пры сярэдніх зборах 120 цэнтнераў травы з

**Прыкладныя кармовыя рацыёны для сьвіней пры бэконным і паўсальным тыпах адкорму для сьвінаводна-таварных калгасных фэрм** (Складзеныя Менскім Філіалам Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сьвінагадоўлі).

| Назва кармоў | Дарослыя сьвіньні | | | | | | | | Парасяты | | | | Адкормачнікі. | | | | | | | | | | | | Адкорм на сала | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Пасьбішчны пэрыяд | | | | Зімні пэрыяд | | | Пасьбішчны пэрыяд | | | | Пры мясным бэконным адкорме | | | | Пры паўсальн. тыпе адкорму | | | | | | | | | |
| | | Маткі | | | | Маткі | | | | | | | Пасьбішчны | | Зімні | | Пасьбішчн. пэрыяд | | | | Зімні пэрыяд | | | | | |
| | Кнуры | Халастыя | Супаросн. | Падсосныя | Кнуры | Халастыя | Супаросн. | Падсосныя | Да 2-х мес. | Ад 2—4 мес. | Да 2-х мес. | Ад 2—4 мес. | Ад 4—6 мес. | Ад 6—8 мес. | Ад 4—6 мес. | Ад 6—8 мес. | Ад 4—6 мес. | Ад 6—8 мес. | Ад 8—10 м. | Ад 10—12 м. | Ад 4—6 мес. | Ад 6—8 мес. | Ад 8—10 м. | Ад 10—12 м. | Першыя 2 мес. | Другія 2 мес. |
| Аўсян. мука . | 0,9 | 0,2 | 0,2 | 1,0 | 0,7 | 0,2 | 0,2 | 0,8 | 2,25 | 0,4 | 0,28 | 0,3 | 0,8 | — | 0,3 | — | 0,8 | 0,8 | 1,0 | 1,0 | 0,3 | 0,8 | 0,8 | — | 0,9 | 0,5 |
| Ячменная . | 0,25 | — | — | 0,4 | 0,25 | — | — | 0,4 | 4,0 | 0,3 | 4 | 0,25 | 0,2 | 1 | 0,2 | 0,8 | 0,2 | — | 0,4 | 1,0 | 0,2 | — | 0,3 | 0,1 | 0,4 | 1,5 |
| Жытняя мука | — | — | — | 0,5 | — | — | — | 0,3 | — | — | — | — | — | 0,4 | — | 0,3 | — | — | — | 1,0 | — | — | — | 1,0 | — | — |
| Вікавая мука | 0,25 | — | 0,2 | 0,3 | 0,25 | — | 0,2 | 0,3 | — | 0,1 | — | 0,1 | — | 0,2 | 0 | 0,3 | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — |
| Высеўкі . . | 0.6 | 0,4 | 0,4 | 1,0 | 0,5 | 0,4 | 0,4 | 0,6 | 1,5 | — | 1,5 | — | 0,5 | 0,6 | — | — | 0,5 | 0,6 | 1,2 | 0,5 | — | 0,4 | 0,6 | 0,4 | — | — |
| Макуха . . | — | — | — | 0,3 | — | 0,1 | 0,1 | 0,3 | 0,5 | 0,1 | 0,5 | 0,1 | 0,2 | — | 0,3 | — | 0,2 | — | — | — | 0,3 | 0,1 | — | — | — | — |
| Бульба . . | — | — | — | — | 4 | 5,0 | 5 | 3 | — | — | 5 | 1,7 | — | — | 6,2 | 6,8 | — | — | — | — | 6,2 | 8,3 | 10,4 | 10,8 | 16,2 | 13 |
| Сена . . | — | — | — | — | 0,9 | 0,9 | 0,9 | 0,6 | — | — | — | 1,2 | — | — | 0,3 | — | — | — | — | — | 0,3 | 0,3 | — | — | — | — |
| Кораньплоды | — | — | — | — | — | — | — | 6 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Травы . . | 6 | 10 | 10 | 7 | — | — | — | — | 10 | 2,4 | — | — | 5,6 | 7 | — | — | 5,6 | 13 | 10,4 | 9,75 | — | — | — | — | — | — |
| Малако . . | — | — | — | — | — | — | — | — | 3/12 | 0 / 0,254 | 3 / 12 | 0 / 0,254 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Усяго кг. . | 3 | 2,1 | 2,3 | 4,9 | 3,0 | 2,1 | 2,1 | 4,5 | — | 1,34 | — | 1,4 | 2,5 | 3,45 | 2,5 | 3,45 | 2,5 | 3,3 | 4,25 | 5,4 | 2,5 | 3,4 | 4,25 | 5,4 | 6,5 | 6,5 |
| Бялку . . | 0,217 | 0,154 | — | 0,400 | 0,217 | 0,145 | — | 0,390 | — | 0,130 | — | 0,118 | 0,200 | 0,250 | 0,180 | 0,200 | 0,200 | 0,234 | 0,280 | 0,278 | 0,180 | 0,223 | 0,235 | 0,248 | 0,400 | 0,400 |
| % сак. ў рац. | 33 | 75 | 55 | 23 | 43 | 72 | 60 | 35 | — | 25 | — | 30 | 35 | 30 | 65 | 50 | 65 | 65 | 40 | 30 | 65 | 65 | 65 | 50 | 65 | 50 |

1 *га* сухадольнага луга для атрыманьня 6.704 цэнтнера патрабуецца 55 *га*. Астатнія 70 *га* сухадольных сенажацяй будзе выкарыстоўвацца як сенажаць для атрыманьня сена. Пры сярэдніх зборах сена 15 цэнтнераў з 1 *га* сухадольных сенажацяй будзе атрымоўвацца 1.050 цэнт., а ўсяго разам з балотным 1.350 цэнтн., сена. Такім чынам на долю палявога кліну прыпадае задача вытварыць у самой гаспадарцы ўсю колькасьць моцных кармоў, караньклубняплодаў, сіласных культур, травы для пасьбішча сьвіней і нехапаючую частку сена ў колькасьці 2.629,3 цэнтнера.

З прыведзеных даных відаць, што пры арганізацыі кармавой базы ў спэцыялізаваных сьвінаводных калгасах трэба мець наступную колькасьць пасеву на адну сьвінаматку: збожжавых—2 *га*, караньклубняплодаў—0,8 *га*, сеяных траў—0,6 *га*, а ўсяго—3,4 *га*. Атрыманая прапорцыя культур паказвае, што на даным адрэзку часу спэцыялізаваныя сьвінаводныя калгасы павінны вытварыць усе патрэбныя кармы ў саміх гаспадарках. Пры наяўнасьці ў гаспадарцы аднаго севазвароту магчыма як прыклад рэкамэндаваць наступнае чаргаваньне культур: 1) віка-аўсяная мешанка на пашу; для сена і палову на ўгнаен.; 2) жыта з падсевам серадэлі; 3) бабовыя на зямлі 4) бульба (на поўным угнаеньні); 5) ½ ячмень з паш. і ½ караньплоды; 6) авёс.

Пры гэтым чаргаваньні мы маем пад збожжавымі 58,4 проц., караньклубняплодамі—25,0 і пад сеянымі травамі 16,6 проц., што ў поўнай меры адпавядае кармавым запатрабаваньням гаспадаркі. На больш ураджайных глебах магчыма ўжываць і такое чаргаваньне культур: 1) ячмень у папары (на мінэральным угнаеньні), 2) віка, сэрадэля, 3) бульба на гнаю, 4) авёс з падсевам канюшыны, 5) канюшына аднагадовая на пашы, 6) бульба і караньплоды (поўн. угнаеньне), 7) палова бабовых, палова аўсу.

Прыведзены севазварот магчыма ўжываць у гаспадарках, дзе пасьбішча для сьвіней знаходзіцца ў агульным севазвароце, але заўсёды бывае рацыянальна вылучаць пасьбішчны севазварот у асобны севазварот—4 ці 5-гадавым чаргаваньнем культур. У якасьці прыкладу магчыма ўказаць на 4-палёвы севазварот з наступным чаргаваньнем культур: 1) авёс з падсевам канюшыны, 2) канюшына, 3) канюшына, 4) караньплоды. Пры вывучэньні асобнага пасьбішчнага севазвароту процант збожжавых культур у палявым кліну адпаведна павялічваецца.

**Агееў Л.**

## БІБЛІОГРАФІЯ

*В. Чэмелаў. „Гадоўля цыбулі"* Выданьне другое папраўленае Б. Дз. В. Менск—1931 г. ст. 78, цана 15 кап.

Цыбуля на першы погляд, здаецца зусім нязначная расьліна, на якую звaрочваць асаблівую ўвагу і не патрэбна. Так у нас у большасьці і глядзелі.

У нас да апошняга часу ня было такой папулярнай навуковай літаратуры, якая-б асьвятляла ўсе пытаньні, зьвязаныя з гадоўляй і хаваньнем цыбулі.

Рэцэнзуемая кніжачка В. Чэмелава дае надзвычайна шмат матар'ялу, шмат практычных указаньняў, зьвязаных з гадоўляй цыбулі.

Аўтар кніжачкі на папулярнай мове дае тлумачэньне навуковых прынцыпаў, якія неабходна выконваць гародніку, які займаецца справай вырошчваньня цыбулі.

Аўтар кніжачкі на канкрэтных прыкладах паказвае, што пры правільнай пастаноўцы пытаньня, цыбуля дае вялікі прыбытак гаспадарцы. Кніжачка пераконвае, што цыбуля зьўляецца важным прадуктам для грамадзкага харчаваньня, а таксама зьяўляецца таварам, які экспартуецца за межы СССР.

Акрамя таго, што ў кніжачцы разьвязваюцца досыць падробна пытаньні, зьвязаныя з гадоўляй цыбулі, у ёй маецца таксама досыць падробны матар'ял, які зьвязан з хаваньнем цыбулі, падрыхтоўкай яе да экспарту.

Гэты матар'ял вельмі каштоўны. Ён можа зьберагчы сотні пудоў цыбулі, якая часта псуецца ад няўмелага яе догляду.

З кніжачкай у цэлым неабходна пазнаёміцца кожнаму калгасьніку, рабочаму саўгасу. Матар'ял карысны і цікавы.

**Росіч.**

Адказныя рэдактары: Міцькоў.
Н. Міхайлаў.

# Усім Калгасаюзам і Праўленьням Калгасаў.

Надаючы вялікае значэньне грыбанарыхтоўкам надыходзячага сэзону 1931 г. як у грамадзкім харчаваньні, таксама і экспорце, дзе за грыбы мы атрымаем сельска-гаспадарчыя машыны для нашага сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, а таксама і таму, што ад збору і здачы добраякаснай прадукцыі грыбоў на нарыхтоўча-каапэрацыйныя пункты калгасы і калгасьнікі палепшаць сваё эканамічнае становішча ад заробку па грыбох.

Калгасцэнтр прапануе ўсім Праўленьням Калгассаюзаў і калгасаў разгарнуць адпаведную работу па скарыстаньні на працы па збору і здачы грыбоў ня толькі працаздольных і вольных рук ад сельска-гаспадарчай работы, але і непрацаздольных (старыкоў і дзяцей), бо збор грыбоў не патрабуе ніякага навыка, а пры надданьні максымум увагі гэтай справе карысьць для калгасаў і калгасьнікаў атрымаецца значная.

Прымаючы пад увагу вышэйпаказанае, неабходна мабілізаваць усю вольную ад сельска-гаспадарчай працы рабочую сілу калгасаў і дапамагчы каапэрацыйна нарыхтоўчым арганізацыям у выкананьні прынятых імі плянаў нарыхтовак.

Дзе гэта будзе магчыма і зьявіцца неабходнасьцю ўтварыць умовы са Спажывецкай і Сельска-Гаспадарчай Каапэрацыяй на адпаведную колькасьць нарыхтоўкі і здачы грыбоў на іх нарыхтоўчыя пункты.

Пры неабходнасьці арганізацыі нарыхтоўча-варачных пунктаў у самых калгасах патрабуйце арганізацыі гэтакіх, ад нарыхтоўчых каапэрацыйных арганізацый, у Калгасах. Абслугоўваньне як рабочай сілай, гэтак і кіраўніцтвам калгасы павінны ўзяць на сабе, пры адпаведным кіраўніцтве ў працы па пераапрацоўцы з боку каапэрацыі, што таксама надасьць магчымасьць прыліву сродкаў у калгасы.

Пры неабходнасьці вылучэньня работнікаў на грыбаварачныя пункты як варшчыкаў, так і рабочых, калгасы павінны аказаць адпаведную дапамогу каапэрацыі ў гэтым напрамку, шляхам вылучэньня работнікаў з шэрагаў калгасьнікаў сяброў ЛКСМ і актыву беспартыйнай моладзі, пажадана жанчын, аплата якіх утвараецца каапэрацыяй.

На працягу аднэй дэкады па атрыманьні гэтага прапануецца Вам дамовіцца з нарыхтоўчымі сыстэмамі каапэрацыі па ўсіх вышэйпаказаных пытаньнях.

Нарыхтоўча-нізавым арганізацыям, Райсаюзам і Райкоопсаюзам прапануецца ў той-жа тэрмін дамовіцца з Праўленьнямі Калгасаў і аб выніках не пазьней дэкады паведаміць Белкоопсаюз і Белсадсаюз.

Нарыхтоўчыя цэны і тэхнічныя паказаньні па збору і пераапрацоўцы грыбоў маюцца ў каапэрацыйных арганізацыях на мясцох.

Калгасцэнтр Беларусі **Залескі.**

Белкоопсаюз **Зелічонак.**

Белдсадсаюз **Стырнэ.**



З арыгіналам згодна:

Адказны выканаўца па грыбох Белплодгародніны **Чэрнік.**

ЦАНА 15 кап.

Падпісвайцеся
— НА ЧАСОПІС —

1054

Падпісвайцеся
— НА ЧАСОПІС —



# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ"

Орган Наркамзему і Калгасцэнтру БССР. Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Калгасьнік Беларусі"

**Часопіс шырока асьвятляе пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі, жыцьцё і працу саўгасаў, камун, арцеляй, вытворчых таварыстваў**

Кожная калектыўная гаспадарка, кожная вёска павінны выпісваць часопіс. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк павінен чытаць

часопіс **„ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ"**

ЧАСОПІС РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ НА 32-Х СТАРОНКАХ З ШМАТЛІКІМІ ФОТА-ЗДЫМКАМІ І КАШТУЕ ЎСЯГО ТОЛЬКІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 год — 24 нумары | . . | 3 руб. | |
| „ 6 мес. — 12 „ | . . | 1 „ | 50 к. |
| „ 3 „ — 6 „ | . . | — — | 75 „ |
| „ 1 „ — 2 „ | . . | — — | 25 „ |

Падпіску здавайце на пошту альбо лістаносцу

Адрас рэдакцыі часопісу:

*г. Менск, Савецкая, 68, 2-гі паверх.*

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1198. 3.300 экз. Галоўлітбел № 1007.